ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 23 (2581)

11 чэрвеня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

## У ГРОДНЕ ПРАЙШОЎ II РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР



Фестывальныя калоны на старажытнай плошчы Гродна.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# МЫ З БЕЛАРУСІ!

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая ў сакавіку 1994 года, дзеля забеспячэння міжнацыянальнай згоды замацавала ў шэрагу артыкулаў правы нацыянальных меншасцей у розных сферах жыцця грамадства. Так, артыкул 15 падкрэслівае, што дзяржава адказвае за свабоднае развіццё культур усіх нацыянальных супольнасцей, якія знаходзяцца ў Рэспубліцы Беларусь.

Калі нагадаць, што больш за 20 працэнтаў насельніцтва Беларусі адносіцца да прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, то стане зразумелым, чаму гэты фестываль прыцягнуў да сябе такую вялікую ўвагу. З шматлікіх гарадоў і вёсак Беларусі ў Гродна з'ехаліся прад-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ВЫСТАВА АЛЯКСАНДРА КІШЧАНКІ

## СПЯШАЎСЯ ЖЫЦЬ І ТВАРЫЦЬ

У траўні гэтага года мастаку Аляксандру Кішчанку споўнілася б шэсцьдзесят пяць. На жаль, лёс распарадзіўся так, што ў поўным творчым росквіце яго не стала. Да свайго юбілею ён не дажыў усяго шэсць месяцаў. Сумна і роспачна, што яго больш ніколі не будзе з намі. Радасна і светла ўсведамляць, што Аляксандр Кішчанка назаўсёды застанецца ў гісторыі беларускага мастацтва. Ён пакінуў Беларусі багатую духоўную спадчыну — плён сваёй 35-гадовай мастакоўскай працы. Частку гэтага набытку можна пабачыць на першай пасмяротнай выставе, якая ў маі працавала ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі, што месціцца ў мінскім Палацы мастацтва.

Аляксандр Кішчанка — расіянін. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Львоўскім дзяржаўным інстытуце ўжытковага і дэкаратыўнага мастацтва. Яшчэ ў тыя гады дыпломная праца маладога мастака была заўважана і атрымала высокую ацэнку вядомага рускага савецкага жывапісца Аляксандра Дайнекі. Гэта, безумоўна, акрыляла і надавала яму творчага натхнення. На пачатку 60-х мастак пераехаў у

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ПРАФЕСІІ

## КВЕТКІ Ў ЯЕ ЛЁСЕ

**Нэлі ГЕТКО — доктар біхімічных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Цэнтральнага батанічнага сада Нацыянальнай акадэміі навук. Дзесяцігоддзі прысвяціла яна працы з раслінамі, а дакладней — з кветкамі, пра якія шмат ведае, умее нават з імі размаўляць. Нэлі Уладзіміраўна перакананая: кветкі не толькі падтрымліваюць у людзях адчуванне прыгажосці жыцця, але таксама сілкуюць іх адухоўленасць.**

— *Нэлі Уладзіміраўна, я разумею, пытацца ў вас, ці любіце вы кветкі, проста лішняе...*

— Ведаеце, мы тут, у батанічным садзе, заўсёды чакаем вясны. Кожны дзень паглядваем: ага, вось нарэшце з'явіліся першыя пратапінкі, а вось на іх раскрыліся кветачкі-"мелкалу-кавічкі"... І тады, праваляваючыся па шчыкалатку ў яшчэ не высахлую зямлю, бяжым у поле — ну, калі, калі ж можна пачынаць працаваць?..

А пазней... Людзям, якія маюць шырокае кола зносін, нярэдка патрэбны свой маленькі свет адзіноты. Я яго знаходжу ў акружэнні раслін. Калі застаешся з імі сам-насам, калі яны раскрываюцца табе насустрач і ты пагружаешся ў іх атмасферу, — гэта непадабаемая радасць. З кветкамі я па-сапраўднаму знітавана: яны ўсё заўважаюць, адчуваюць і ўвагу, і радасць, і слёзы. Таму, прыходзячы да іх, стараюся, як настаўнік, што пераступае парог класа, пакідаць жыццёвыя праблемы і нягоды недзе там, за дзвярыма. Гэта я гавару, зыходзячы з уласнага вопыту: пасля заканчэння універсітэта тры гады працавала ў сельскай школе і ўспамінаю той перыяд як шчаслівы час свайго жыцця.

— *А потым?*

— Потым была аспірантура. Абараняла дысертацыю па тэме: "Азеляненне прамысловых прадпрыемстваў", што тады было вельмі актуальна, нават давала магчымасць зарабляць грошы. Тым больш, спецыялістаў у гэтай галіне ў Саюзе налічвалася няшмат.

— *І адразу кветкі?*

— І адразу кветкі.

— *Але, напэўна, тут у вас ёсць свой напрамак?*

— Мая асноўная культура — эхінацэя, дэкаратыўны мнагалетнік, лекавая расліна.

— *Апошнім часам прэпараты, выраблены на яе аснове, сталі вельмі папулярнымі...*

— Так, і цяпер мы ўпершыню вырошчваем сваю ўласную, беларускую эхінацэю. А заняліся гэтай культурай яшчэ ў 63-м годзе. З таго часу работа з эхінацэяй не раз пераходзіла з рук у рукі, і проста шчасце, што яе не толькі не загубілі, але апошнім часам удалося нават значна развіць. Справа ў тым, што наша эхінацэя мае вялікую біямасу (з адной расліны атрымліваецца 51 парастак — вялікі куст), а таксама канцэнтрацыю дзеючых рэчываў, якая ў пяць разоў перавышае паўночнаамерыканскія і расійскія аналагічныя паказчыкі. Таму менавіта на беларускай эхінацэі рыхтавалася першая партыя эстыфана — прэпарата, распрацаванага масквічамі, але запушчанага на Барысаўскім заводзе. Там сказалі: сыравіна — сапраўдны цуд. У той час, як эхінацэя, вырашчаная ў іншых месцах, здаралася, не дацягвала да неабходных параметраў, нашу даводзілася нават разбаўляць.

Аднак эхінацэя — не адзіная мая культура. Многа займаюся ружамі і гладыёлусамі. Пакульмы на пайдарозе да таго, каб атрымаць ружы сваёй, беларускай селекцыі — не толькі прыгожыя, але і вынослівыя, якія б не абавязкова было накрываць.

Вельмі пяшчотна стаўлюся і да гладыёлусаў, з імі звязана нямала падзей майго жыцця: і пачатак работы ў батанічным са-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

### ДА ЧЫТАЧОЎ У БЕЛАРУСІ!

**Паважаныя чытачы "Голасу Радзімы"!**

**Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні на другую палавіну 1998 года. Нагадваем вам пра гэта і спадзяемся, што вы застанецеся з "Голасам Радзімы", прынамсі, да канца года. Будзем удзячныя, калі вы параіце падпісацца на штотыднёвік "Голас Радзімы" іншым.**

**Усе дакладней пра наша выданне — у каталогу, які вы знойдзеце ў кожным аддзяленні сувязі Рэспублікі Беларусь.**

**Наш індэкс 63854.**

**РЭДКАЛЕГІЯ.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*БЕЛАРУСЬ І СВЕТ*

### ДЫЯЛОГ З НАТО

**Аб падыходах Беларусі да пабудовы агульнаеўрапейскай сістэмы бяспекі і зацікаўленасці рэспублікі ў развіцці шматбаковага і рэгіянальнага супрацоўніцтва ў рамках Савета еўра-атлантычнага партнёрства расказаў у сваім выступленні на пасяджэнні СЕАП першы намеснік міністра замежных спраў Сяргей Мартынаў. Яно прайшло ў Бруселі на ўзроўні міністраў замежных спраў. Удзел у пасяджэнні прынялі дэлегацыі 16 краін — членаў НАТО і 27 краін-партнёраў.**

**Як паведамілі ў прэс-службе знешнепалітычнага ведамства нашай краіны, у час знаходжання ў Бруселі Сяргей Мартынаў сустрэўся таксама з міністрамі замежных спраў Расіі і Польшчы Яўгенам Прымаковым і Браніславам Герэмекам, генеральным сакратаром Заходнееўрапейскага саюза Хасэ Куцілейра. У час гэтых сустрэч абмяркоўваліся праблемы, што тычацца актывізацыі ўдзелу Рэспублікі Беларусь у працэсах, якія фарміруюць будучую архітэктуру еўрапейскай бяспекі.**

**Акрамя таго, прайшлі перагаворы Сяргея Мартынава з першым намеснікам генеральнага сакратара НАТО Сержыю Баланзіна, у час якіх беларускі дыпламат выказаў заклапочанасць нашай дзяржавы ў сувязі з расшырэннем НАТО на Усход. Бакі абмеркавалі таксама перспектывы развіцця ўзаемаадносін Беларусі і НАТО.**

*БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ*

### ПРАВЕДЗЕНЫ «КРУГЛЫ СТОЛ»

**"Саюз Беларусі і Расіі" — тэма "круглага стала", які падрыхтавала і правяло ў Маскве пасольства нашай краіны сумесна з Дыпламатычнай акадэміяй Расійскай Федэрацыі. Удзельнікі "круглага стала" канстатавалі, што ўтварэнне "саюза двух" з'явілася вынікам дзеяння аб'ектыўных фактараў сучаснага сусветнага развіцця, у прыватнасці, у рамках СНД, а таксама мэтанакіраванай палітыкі, якая праводзіцца Прэзідэнтамі Беларусі і Расіі.**

*СНІД (AIDS)*

### РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРАЕКТА ААН

**Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА пачала рэалізацыю праекта "Змяненне сексуальных паводзін насельніцтва Рэспублікі Беларусь", фінансаванне якога ажыццяўляецца Сусветным фондам па СНІДу і Праграмай развіцця ААН (ПРААН).**

**Мяркуецца, што мерапрыемствы будуць рэалізоўвацца сумесна з Рэспубліканскім цэнтрам прафілактыкі СНІДу.**

**Доўгатэрміновай мэтай развіцця праекта з'яўляецца стварэнне інфармацыйнай і адукацыйнай інфраструктуры, якая будзе садзейнічаць змяненню палавых паводзін моладзі Беларусі з мэтай прафілактыкі распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі і хвароб, што перадаюцца палавым шляхам.**

*ПОМНІК БАЦЬКУ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА*



**Помнік Адаму Багдановічу, бацьку класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, вучонаму і этнографу, адкрыты ў Халопенічах, што ў Крупскім раёне. Аўтар помніка — скульптар Уладзімір Лятун.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

*«ТІВО-98»*




**Звыш дзевяноста фірм з многіх краін свету прымаюць удзел у V міжнароднай спецыялізаванай выставе "ТІВО-98" і міжнародным кангрэсе "Тэлекамуніка, інфармацыйныя і банкаўскія тэхналогіі", якія адкрыліся ў Мінску.**

**НА ЗДЫМКУ: на выставе "ТІВО-98".**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

*ФЕМІДА*

### ГАРЫ ПАГАНЯЙЛА ПАЗБАВІЛІ ЛІЦЭНЗІІ

**За парушэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь пры адвакацкай дзейнасці па-за калегіяй адвакатаў, арганізацыю прадстаўніцтва аднаго з аб'яднанняў адвакатаў Расійскай Федэрацыі без дазволу Міністэрства знешніх эканамічных сувязей і Мінскай гарадской калегіі адвакатаў Гары Паганяйла пазбаўлены ліцэнзіі на права займацца адвакацкай дзейнасцю.**

**Гэта рашэнне было прынята на чарговым пасяджэнні Камісіі па пытаннях адвакацкай дзейнасці, якая створана Мінюстам рэспублікі і складаецца з прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, адвакатаў, іншых спецыялістаў у галіне права.**

**Сам Г. Паганяйла прытрымліваецца той думкі, што яго пазбавілі ліцэнзіі за тое, што ён узяўся за справу лідэра "Маладога фронту" П. Севярынца.**

*СПРАВА ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА*

### ПАД ПАДПІСКУ АБ НЯВЫЕЗДЗЕ

**Лідэр "Маладога фронту" 21-гадовы Павел Севярынец 3 чэрвеня быў адпушчаны з мінскага следчага ізалятара пад падпіску аб нявыездзе з горада Віцебска, дзе ён прапісаны, да суда.**

**Як паведамілі ў праваабарончым цэнтры "Вясна-96", канчатковага абвінавачання ён яшчэ не атрымаў, таму тэрмін суда над ім пакуль невядомы. Два месяцы П. Севярынец быў пад следствам па артыкуле 201, ч. 2 Крымінальнага кодэкса (хуліганства) за выпадак са зрывам прадстаўнікамі апазіцыйных сіл фальклорнага канцэрта на плошчы Якуба Коласа ў Мінску ў дзень яднання Расіі і Беларусі 2 красавіка. На думку прадстаўнікоў пракуратуры Мінска, гэтыя дзеянні "выказвалі яўную непавагу да грамадства і насілі дзёрзкі характар".**

*ПРЭМІЯ ВАСІЛЮ БЫКАВУ*

### «ЗАЛАТЫ САН-ВАЛЯНЦІН»

**Італьянская прэмія прысуджана В. Быкаву як адзнака найвышэйшай чалавечай маралі. Менавіта такое вызначэнне ў дачыненні да ўзнагароджання народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава прэміяй "Залатога Сан-Валянціна" акрэсліў пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джавані Чаруці. Відаць, не лішнім будзе нагадаць, што ва ўсім свеце Сан-Валянціна, Святога Валянціна, лічаць не толькі заступнікам усіх закаханых, але і ўсіх, хто любіць бліжняга. Прэміяй "Залатога Сан-Валянціна", якая заснавана 14 лютага 1968 года, ушанаваны самыя розныя знакамітыя дзеячы літаратуры, мастацтва, культуры, навукі, спорту ўсяго свету. У іх шэрагу і пісьменнік Аляксандр Салжаніцын, і рэжысёр Мікеланджэла Антаніёні, і прэзідэнт камітэта па прысуджэнню Нобелеўскіх прэмій Андрэ Оэстэрлінг.**

*КАМЕНТАРЫЙ З НАГОДЫ*

### 80 ГАДОЎ БЕЛАРУСКІМ ПАГРАНВОЙСКАМ

28 мая споўнілася 80 гадоў беларускім пагранвойскам. Першыя пагранічныя акругі былі арганізаваны ў 1918 годзе ў Петраградзе, Віцебску і Оршы. У далейшым нашы пагранічныя войскі Беларусі ўяўлялі сабой Беларускую пагранічную акругу, якая ўступіла ў вайну, маючы 11 атрадаў. Пасля вайны Беларуская пагранакруга разам з Украінскай пагранічнай акругай была пераўтворана ў адзіную Заходнюю пагранічную акругу. З дня аб'яўлення незалежнасці Рэспублікі Беларусь арганізавана Галоўнае ўпраўленне пагранічных войск, у якім было ўсяго тры пагранічныя атрады, што ахоўвалі беларуска-польскую граніцу. Сёння ў краіне створаны Дзяржаўны камітэт пагранічных войск на правах міністэрства і восем пагранічных атрадаў, якія ахоўваюць усю дзяржаўную граніцу Беларусі. Рэжым аховы граніцы розны: у напрамках, дзе зафіксавана найбольшая колькасць спроб правозу кантрабанды, шчыльнасць пагранвойск большая, чым, напрыклад, на ўкраінскім напрамку. З мінулага года ахоўваецца практычна ўся граніца з Украінай, гэта ўключае ў сябе пункты пропуску, на якіх працуюць пагранічнікі, і рухомыя заставы, якія маюцца паміж пунктамі пропуску і ажыццяўляюць барацьбу з проціпраўнай дзейнасцю, кантрабандыстамі, перавозчыкамі наркотыкаў і нелегальнымі мігрантамі.

Агульная працягласць дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь складае каля 3,5 тысячы кіламетраў, з іх з Рэспублікай Польшча — 398,6 кіламетра, з Латвійскай Рэспублікай — каля 165 кіламетраў, з Літвой — каля 650 кіламетраў, з Украінай — каля 1 037, з Расійскай Федэрацыяй — каля 1 239 кіламетраў. Сутачны пропуск праз дзяржаўную граніцу Беларусі — да 60 500 чалавек і 15 500 адзінак транспартных сродкаў.

Беларускіх пагранічнікаў рыхтуюць на двух факультэтах Ваеннай акадэміі пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь і ў школе прапаршчыкаў. На факультэце пры Ваеннай акадэміі пры Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь рыхтуюць афіцэраў-пагранічнікаў, у Расіі беларускіх пагранічнікаў рыхтуюць толькі па дэфіцытных спецыяльнасцях.

Пагранічнікі Беларусі ўзаемадзейнічаюць у рамках Савета камандуючых краін СНД, які збіраецца раз у квартал для вырашэння пытанняў аб узаемадзеянні паміж усімі пагранічнікамі краін СНД. У рамках Саюза Беларусі і Расіі створаны пагранічны камітэт, які забяспечвае сумесную дзейнасць абедзвюх дзяржаў і ўзначальваецца па чарзе, на сённяшні дзень яго ўзначальвае прадстаўнік Расійскай Федэрацыі. Разглядаецца прапанова стварыць такі ж камітэт краін, якія ўваходзяць у адзіную таможную прастору. Акрамя таго, раз у паўгода праводзяцца сустрэчы з сумежнымі бакамі, якія не ўваходзяць у СНД — Латвіяй, Літвой і Польшчай. Як сказаў на сваёй прэс-канферэнцыі камандуючы беларускімі пагранвойскамі генерал-лейтэнант Аляксандр Паўлоўскі, Беларусь сёння адзіная з краін СНД, якая не мае праблем і спрэчных пытанняў на граніцы. У нашай краіны стабільная граніца з Польшчай, а таксама праведзены дэлімітацыйныя работы на граніцах з Латвіяй, Літвой, Украінай, пачаты дэмаркацыйныя работы на граніцах з Латвіяй і Літвой, на што сёлета выдзелена 200 мільярдаў беларускіх рублёў. Па пытанні развіцця пагранічнай інфраструктуры пры ўладкаванні граніцы быў падпісаны дагавор аб узаемадапамозе з Расійскай Федэрацыяй, у рамках якога з 1996 года ў роўных долях паступаюць грошы на абсталяванне граніцы: па 20 мільярдаў расійскіх рублёў з кожнага боку. Летась была запланавана такая ж сума, беларускі бок выдзеліў сродкі ў поўным аб'ёме, у той час як расійскі пералічыў толькі 15,5 мільярда. Тым не менш, на гэтыя сродкі было ажыццёўлена будаўніцтва на граніцы васьмі аб'ектаў. Штогод у Венгрыі праводзяцца канферэнцыі ўсіх пагранічных ведамстваў Заходняй Еўропы, на якіх абмяркоўваюцца асноўныя пытанні і праблемы міжнароднага супрацоўніцтва. У гэтым годзе на ёй выступаў камандуючы беларускімі пагранвойскамі Аляксандр Паўлоўскі з пытаннем арганізацыі ўзаемадзеяння ў барацьбе з нелегальнай міграцыяй.

Зараз ідзе актыўная работа па стварэнню заканадаўчай базы. Многія з прынятых законаў — рамачнага тыпу, распрацаваныя і прынятыя сумесна з Расійскай Федэрацыяй з улікам таго, што гэтыя краіны знаходзяцца ў адзінай таможнай прасторы. Па словах камандуючага, да парушальнікаў — калі іх дзеянні не нясуць пагрозы нацыянальнай бяспецы — у асноўным прымяняюцца меры матэрыяльнага ўздзеяння: канфіскацыя аўтамабіля, выплата штрафу, што значна "мягчэй", чым пакаранне за аналагічныя дзеянні ў Літве і Латвіі, дзе апошнім часам парушальнікаў арыштоўваюць, прыцягваюць да суда і змяшчаюць у турмы.

Апошнім часам удзяляецца вялікая ўвага абсталяванню і ўладкаванню пунктаў пропуску. Для таго каб зразумець усю актуальнасць гэтай праблемы, дастаткова сказаць, што на польска-нямецкай граніцы сёння размешчана каля 60 пунктаў пропуску, у той час як на беларуска-польскай граніцы актыўна працуе ўсяго 8. Цяпер ідзе работа над поўнай камп'ютэрызацыяй усяго працэсу праходжання граніцы. Першая такая спроба зроблена на АКПП Мінск-2, дзе ў кожнай кабіне маюцца камп'ютэры і сканеры, якія дазваляюць вызначыць сапраўднасць дакументаў, якія прад'яўляюцца. Асобую актуальнасць гэтае пытанне набывае ў святле таго, што Беларусь з'яўляецца буфернай дзяржавай, куды пастаянна накіроўваюцца патокі нелегальных мігрантаў. Па словах камандуючага, "да нелегальных мігрантаў прымаюцца адпаведныя меры ўздзеяння, мы стараемся вярнуць іх у краіны пражывання ці ў тыя краіны, адкуль яны да нас прыбылі". Праўда, па яго ж словах, за гэты год з Беларусі было дэпартавана ўсяго чатыры чалавекі. Астатнія нелегалы спрабуюць асесці тут і атрымаць статус бежанца. Летась беларускімі пагранічнікамі было затрымана больш трох тысяч нелегалаў, у гэтым — ужо каля 800. Трэба заўважыць, што праверка нелегальнага мігранта, яго затрыманне абыходзіцца беларускаму падаткаплацельшчыку нятанна.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# КВЕТКІ Ў ЯЕ ЛЁСЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

дзе, і сустрэча, супрацоўніцтва з вядомым вучоным, селекцыянерам з Расіі, прэзідэнтам Міжнароднага таварыства гладыёлусаводаў Андрэем Громавым. Дарэчы, я заўважыла: гладыёлусамі больш захапляюцца мужчыны, чым жанчыны.

Громаў — вельмі таленавіты чалавек: яго "Усмешка Гагарына" ці сорт "Ра" з тонкім пахам, які вылзяляецца, калі кветка трапляе пад прамыя промні сонца, — абышлі ўвесь свет. А апошняя мэта работы Андрэя Мікалаевіча проста мяне ўзрушыла — стварыць гладыёлус XXI стагоддзя.

— *Якім жа ён павінен быць?*

— Правялі апытанне многіх вядомых у свеце селекцыянераў — з Аўстраліі, Англіі, Германіі, Амерыкі, і ўсе сышліся ў меркаванні: афарбоўка кветкі — у пяшчотных пастэльных тонах, бутон — гафрыраваны, кветанос — высокі, дужы, колас — шчыльны, адначасова павінна распускацца больш дзесяці кветак, і, вядома, — прыемны пах.

— *Нэлі Уладзіміраўна, наколькі Беларусь цяпер багатая кветкамі?*

— На жаль, у нас у Беларусі кветак няшмат. І мы гэтай праблемай займаемся. Каб лепш уявіць сітуацыю, адна з нашых супрацоўніц, Наталля Луніна, нават праводзіць своеасаблівую "інвентарызацыю" гарадскіх і сельскіх палісаднікаў. Часцей за ўсё там красуюцца флоксы, геаргіны, "залатыя шары"... Гэтыя кветкі ўжо можна лічыць па-сапраўнаму беларускімі, па крайняй меры, ім тут больш ста гадоў.

— *Што ж ускладняе развіццё кветаводства — і прафесійнага, і аматарскага?*

— У першую чаргу — адсутнасць добра развітой насеннай базы. У нашых негарачых кліматычных умовах цяжка атрымаць якасны пасадачны матэрыял. Акрамя таго, з-за жыццёвых складанасцей у людзей увогуле зменшылася ўвага да кветак. Але я ўпэўнена: калі мы павернемся да іх з адкрытай душой — хутчэй пойдзе і адраджэнне духоўнага жыцця, і дабрабыту. Што ж тычыцца шырокамаштабнага ўварвання на беларускі рынак раскошных імпартных раслін і дарагога, нярэдка экзатычнага насення, то, па-першае, бум хутка ўляжацца, а па-другое, нічога дрэннага тут няма. Нават лічу гэта карысным: пашыраецца мясцовы "кветкавы" кругагляд, з'яўляецца магчымасць дазнацца пра новыя для нас расліны і тым самым павялічыць уласную інфармацыйную, навуковую базу. Што ж тычыцца ўяўнай няўвагі да "сваіх" традыцыйных культур, то гэта менавіта "здаецца". Іх магчымасці далёка не вычарпаны — трэба толькі лепш прыгледзецца, папрацаваць. Вазьміце касмею — рознакаляровыя лёгкія рамонкі, дзесяцігоддзямі растуць ля веснічак і пад вокнамі беларускіх дамоў. Цяпер касмея (праўда, іншыя сарты — больш нізкарослыя і дэкаратыўныя) — адна з састаўных частак славутых газонаў Парыжа...

Безумоўна, трэба мець уласныя якасныя сарты традыцыйных і найбольш папулярных у краіне кветак. Напрыклад, тыя ж геаргіны сярод іншага павінны быць і ўласнай селекцыі, прычым з радаснай "сонечнай" афарбоўкай, каб пахмурнай беларускай восенню хоць крыху прыхарошваць непагадзь і шэрасць. Тое ж тычыцца бэзу, цюльпанаў, гладыёлусаў, руж, якія, дарэчы, за сваю эвалюцыю паспяхова пракрочылі ад субтропікаў да паўночных шырот і выдатна акліматызаваліся ў нашых умовах.

— *Якія кветкі, з вашага пункту гледжання, сёння найбольш папулярныя ў нашага насельніцтва?*

— Акрамя традыцыйных кветак, вельмі многія ўладальнікі загарадных зямельных участкаў зараз жадаюць мець экзоты — незвычайныя расліны, часцей мнагалетнікі. Вельмі папулярныя камяністыя горкі. Павінна сказаць, "кветкавыя" густы беларусаў робяцца досыць вытанчанымі. Аднак падобнае захапленне пакуль каштуе немалых грошай, і, на жаль, не ўсе аматары-кветаводы ў стане дазволіць сабе такую раскошу.

— *А як вы ацэньваеце айчыннае гарадское кветкавае афармленне?*

— Летась у Мінску, як ніколі, былі прыгожыя кветкі на вуліцах, плошчах, у парках і скверах. Але зноў жа: уся прыгажосць грунтавалася на імпартным, вельмі якасным пасадачным матэрыяле — і петуніі, і тагецісы, і тыя ж самыя "браткі"...

Культываванне кветкавага насення ў нас — неараная цаліна. У многім і таму, што гэтая сфера проста не запатрабавана грамадствам. Аднак, мне здаецца, тут сталі з'яўляцца нейкія праблескі. Ва ўсякім разе, я гляджу ў будучыню з аптымізмам і лічу, што таксама працую на XXI стагоддзе.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**



## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# СТАРАДАЎНІЯ ПАРКІ ДАЖЫВАЮЦЬ СВОЙ ВЕК?

Гінуць векавыя дрэвы, утвараюцца звалкі — у такім стане знаходзяцца сёння многія старадаўнія паркі Беларусі. Нават тыя, што аб'яўлены помнікамі прыроды. Іх каля ста. Дваццаць два — рэспубліканскага, астатнія — мясцовага значэння.

Каля трох стагоддзяў назад пры магнацкіх сядзібах Радзівілаў, Сапегаў і ў больш дробных панскіх уладаннях сталі з'яўляцца унікальныя паркі. Уражвалі рукатворнай прыгажосцю паркі ў Малеўскай сядзібе (Нясвіжскі раён), Бачэйкаўскім і Цімкавіцкім маёнтках (Бешанковіцкі і Капыльскі раёны). "Малым Вярсалем" называлі палацава-паркавы ансамбль у Дзярэчыне (Зэльвенскі раён) і іншыя.

Цяпер многае беззваротна страчана: няўмольны час, змена гаспадароў, шматлікія войны нанеслі паркам непапраўны ўрон. Парушана іх планіроўка, кампазіцыя. Малыя архітэктурныя формы — гроты, альтанкі занядбаныя.

Каб захаваць старадаўнія паркі, зберагчы ад канчатковай дэградацыі, і было вырашана аб'явіць іх помнікамі прыроды, узяць пад ахову дзяржавы. Мера гэта, на жаль, не прынесла жаданых вынікаў: паркі сёння знаходзяцца ў жудасным стане. Ступень занядбанасці напрамую залежыць ад таго, у чыё падпарадкаванне перададзены парк. Больш за іншых пашанцавала нясвіжскаму і парку ў Залессі, былым маёнтку Агінскага. Першым валодае санаторый, другі належыць аб'яднанню музеяў. Для абодвух распрацаваны праграмы рэканструкцыі, і няхай не так хутка, як хацелася б, але яны выконваюцца. А вось гомельскі парк імя Луначарскага з помніка прыроды ператвараецца ў звычайны гарадскі — зарастае хмызняком, абы-як пракладваюцца асфальтавыя сцежкі.

Значна горшае становішча ў парку гарадка Высокае, што ў Камянецкім раёне. У цэнтральнай яго частцы размясціўся будынак школы-інтэрната.

Перад вадаёмам, што некалі лічыўся адным з галоўных упрыгажэнняў парку, пабудаваны гаспадарчыя будынкі, хлявы. Паляны ўзараны пад агароды. А ў гэтым жа парку захаваліся унікальныя для рэспублікі дрэвы — кладрасціс, пірамідальны чарэшчаты дуб і многія іншыя. Але за апошнія гады частка іх загінула — лістоўніца, чорная сасна; засыхаюць два самыя старыя ў рэспубліцы экземпляры катальпы. Бессістэмныя пасадкі маладых дрэваў малакаштоўных парод яшчэ больш пагаршаюць выгляд парку.

Вялікая шкода цяперашнімі ўладальнікамі нанесена і парку Чырвоны Бераг у Жлобінскім раёне. Некалі яго цэнтрам быў прыгожы палац, побач размяшчаліся пабудовы XIX стагоддзя — аранжарэі і парнікі, птушыны вальер. Цяпер там сельскагаспадарчы тэхнікум, у парадНай частцы парку — кацельня. Рэдкія дрэвы загінулі, тыя, што засталіся, — засыхаюць.

Пералічваць прыклады бяздумных і варварскіх адносін да помнікаў прыроды можна было б яшчэ доўга. Але і сказанага хапае, каб зрабіць вывад: большасці "гаспадароў" старадаўнія паркі непатрэбныя, яны не могуць і не хочуць займацца імі так, як таго патрабуе статус аб'екта, які ахоўваецца дзяржавай. Вельмі часта, як толькі размова зойдзе аб рэканструкцыі, адраджэнні паркаў, скардзяцца — няма на гэта сродкаў. Але, па-першае, тыя, хто хоча нешта змяніць, звяртаюцца па фінансавую дапамогу ў Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, яго абласныя і раённыя падраздзяленні, і грошы, няхай невялікія, выдзяляюцца. Тыя ж, у каго не даходзяць рукі да паркаў, нічога і не просяць, пакідаючы іх на волю лёсу.

У выніку пры цяперашнім становішчы спраў, калі фармальна аб'яўленыя помнікамі прыроды паркі, па сутнасці, засталіся без надзейных гаспадароў, здольных аказаць дзейсную дапамогу і ахову, наўрад ці ўдасца вярнуць ім былую велічнасць і нават проста зберагчы іх ад далейшага запусцення.

**Лаліта АНІСАВЕЦ.**
**("Советская Белоруссия").**

## САЦЫЯЛОГІЯ

# КОЖНЫ САМ ЗА СЯБЕ

Абнародаваны разгорнутыя вынікі апытання, праведзенага сацыялагічнай службай Партыі камуністаў Беларускай у пачатку гэтага года.

Апытанне ахапіла 6 545 грамадзян усіх узроставых катэгорый, пачынаючы з 18 гадоў. Збор інфармацыі праводзіўся ў Мінску, дзе было апытана 780 чалавек, і ў 59 рэгіёнах рэспублікі, уключаючы ўсе вобласці Беларусі. Прычым апытваліся жыхары і буйных прамысловых цэнтраў, і невялікіх гарадскіх пасёлкаў, і тыя, хто жыве ў сельскай глыбінцы. Асноўных параметраў кантролю было чатыры: узрост, пол, адукацыя, месца пражывання.

На аб'ектыўнасць збіраемай інфармацыі працаваў фактар ананімнасці апытання, а таксама методыка яго правядзення, у аснове якой ляжаў прынцып выпадковага адбору. Хоць апытанне і праводзілася партыйнымі органамі, асноўныя мэты яго былі ў вышэйшай ступені пазапартыйныя: атрымаць сапраўды аб'ектыўную ацэнку ўзроўню жыцця нашага народа ў сучасных умовах. І другое: паспрабаваць даследаваць магчымыя варыянты развіцця падзей пры ўмове далейшага пагаршэння матэрыяльнага становішча людзей.

А цяпер аб тых лічбах, якія заслугоўваюць асобнай размовы.

Справа нават не ў тым, што 49,1 працэнта рэспандэнтаў адзначылі далейшае пагаршэнне свайго матэрыяльнага становішча, а яшчэ прыкладна столькі ж людзей (41,6 працэнта) захавалі статус-кво. Бо ў выніку, калі чалавек сказаў, што ён жыве па-ранейшаму, то гэта яшчэ не значыць, што ён жыве добра. Самыя сумныя лічбы з'явіліся тады, калі людзі сталі адказваць на асобныя пытанні анкеты. І тады высветлілася, што кожны другі жыхар Беларусі ва ўзросце ад 30 гадоў і больш адмаўляе сабе ў прадуктах харчавання. А калі да гэтага дадаць, што ў ежы сабе адмаўляюць 53 працэнты жанчын, то можна толькі здагадвацца, якія дэмаграфічныя перспектывы чакаюць нашу краіну ў наступным тысячагоддзі.

Я ўспамінаю жанчыну, якая, дайшоўшы да пытання анкеты "Ці часта вам даводзілася за апошні год адмаўляць сабе ў самым неабходным адзенні?", толькі сумна ўсміхнулася. Такіх сумных усмешак грамадзян у нас, як высвятляецца, 86,8 працэнта.

Яшчэ больш змрочныя лічбы, што тычацца даступнасці медыцынскага абслугоўвання і лякарстваў. Пачынаючы з 30-гадовага ўзросту, сем з дзесяці грамадзян Беларусі вымушаны часта ці рэдка адмаўляць сабе ў медыцынскім абслугоўванні і лякарствах, а сярод асоб перадпенсійнага і пенсійнага ўзросту такіх звыш 40 працэнтаў. Ці не таму мы зноў загаварылі аб сацыяльных хваробах? Напрыклад, толькі па афіцыйнай статыстыцы, у мінулым годзе колькасць выпадкаў захворвання на туберкулёз павялічылася на 15 працэнтаў, у тым ліку ў дзяцей — на 73 працэнты. Аналізуючы гэтыя лічбы, цяжка згадзіцца з аптымістамі, якія сцвярджаюць, што жыць стала лепш, а галоўнае — весялей.

Але, бадай, самыя цікавыя даныя атрыманы па раздзелу ацэнкі насельніцтвам аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў пагаршэння свайго жыцця. Тут анкета прапаноўвала на выбар больш дзесятка розных адказаў, тым больш паказальныя вынікі. 72,2 працэнта апытаных галоўны корань зла бачаць у развале СССР: для пераважнай большасці нашых суграмадзян развал адзінай дзяржавы — гэта катастрофа, што ўзрушыла асновы сусвету. Нават сярод тых, каму да развалу Савецкага Саюза было не больш 10 гадоў, кожны другі лічыць гэтую падзею вызначальнай для ўласнага лёсу і лёсу сваіх блізкіх.

Другое месца сярод вінаватых у пагаршэнні жыцця займае ўрад. Зрэшты, складваецца ўражанне, што многія рэспандэнты словам "урад" пазначылі ўвогуле ўладу. Дзейнасць Прэзідэнта ацэньваецца менш сурова. Прычым найбольш крытычна да яго настроены людзі працаздольнага ўзросту — ад 20 да 54 гадоў. Такіх 37,6 працэнта. Па Мінску гэты паказчык яшчэ вышэйшы — 40,7 працэнта. Здаровы сэнс нашых людзей асабліва ярка праявіўся ў ацэнцы рэальных уладавых паўнамоцтваў тых ці іншых палітычных структур. Людзі добра разумеюць, што ў дэпутатаў, ні цяперашніх, ні ранейшых, няма рэальнай улады; не яны кіруюць эканомікай і фарміруюць стратэгію дзяржаўнай палітыкі. Не выпадкова толькі 5,5 працэнта рэспандэнтаў абвінавацілі членаў Нацыянальнага сходу ў пагаршэнні свайго жыцця.

Не атрымаўся вобраз ворага і з прадпрымальнікаў. Вінаватымі іх назвалі толькі 5,3 працэнта апытаных.

Некалькі слоў аб варыянтах паводзін розных сацыяльных груп насельніцтва ў выпадку далейшага зніжэння ўзроўню жыцця.

Лепшых часоў будуць цярпліва чакаць 21,7 працэнта, зробяць, "як усе", — 12,6, не ведаюць, што рабіць, — 12,4 працэнта. Калі да гэтага дадаць яшчэ 27,1 працэнта тых людзей, якія будуць нешта рабіць самастойна, спрабуючы палепшыць сваё жыццё любым законным шляхам, то гэта значыць, што 73,8 працэнта грамадзян Беларусі не маюць намеру рабіць нейкія рэзкія рухі, гэта значыць прадпрымаць нешта рэальнае для паляпшэння ўласнага жыцця.

Апатыя сярод моладзі праяўляецца наступным чынам: кожны дзесяты, маладзейшы за 20 гадоў, збіраецца эмігрыраваць. Сярод асоб ад 20 да 30 гадоў аб гэтым усур'ёз падумвае кожны дваццаты.

На фоне гэтых змрочных лічбаў нямногае парадуе цяперашнюю ўладу. Бо актыўна дапамагаць ёй у вырашэнні эканамічных праблем збіраюцца толькі 3—4 працэнты грамадзян, прычым гэты паказчык удвая ніжэйшы ва ўзроставай катэгорыі да 40 гадоў. Яшчэ ніжэйшы гэты паказчык сярод жанчын — толькі 3,5 працэнта ў параўнанні з 5,4 працэнта сярод мужчын.

Вось так і жывем, спадзеючыся, як даўней, кожны сам на сябе. Адзін толькі Бог за ўсіх. Як заўсёды.

**Зінаіда КРАСНЕЎСКАЯ.**
**("Белорусский рынок").**

## У ГРОДНЕ ПРАЙШОЎ II РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КУЛЬТУР

# МЫ З БЕЛАРУСІ!






**(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).**

стаўнікі розных дыяспар — людзі, якія шмат гадоў у згодзе і ўзаемадапамозе жывуць побач з беларусамі.

Рознымі шляхамі калісьці прывёў іх гістарычны лёс на нашу зямлю. Сёння ў Беларусі афіцыйна зарэгістравана 25 культурна-асветных нацыянальных таварыстваў. Ва ўрачыстым адкрыцці свята прынялі ўдзел Беларуска-азербайджанскае таварыства "Габустан", Мінскае гарадское армянскае культурна-асветніцкае таварыства "Айастан", Мінскае гарадское таварыства грэчаскай культуры "Алкеста", Асацыяцыя беларускіх карэйцаў, Рэспубліканская абшчына літоўцаў, абшчына "Малдова", Беларускае таварыства немцаў "Адраджэнне", Саюз палякаў на Беларусі, Мінскае гарадское таварыства рускай культуры "Русь", Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", Беларуская асацыяцыя ўкраінцаў "Ватра", Беларускае аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый і абшчын.

У газетным рэпартажы немагчыма пералічыць усе мерапрыемствы, якія падрыхтавалі для фестывалю яго госці і гаспадары гасціннага Гродна. Дарэчы, горад, які ў гэтыя дні адначасова святкаваў сваё 870-годдзе, нібыта памаладзеў ад безлічы вітальных транспарантаў, стракатых упрыгажэнняў на старажытных вуліцах і плошчах.

Першы дзень фестывалю пасля афіцыйнай цырымоніі адкрыцця парадаваў цудоўнай выставай кветак на цэнтральнай плошчы горада. А ў салонах тым часам адкрыліся аж два вернісажы — мастакоў нацыянальных аб'яднанняў і мясцовага жывапісца Уладзіміра Качана, які скончыў працу над вялікай партрэтнай серыяй "Славутыя постаці зямлі Гродзенскай XII—XX стагоддзяў". Наступны дзень прывабіў тысячы гледачоў на дэгустацыю і продаж нацыянальных страў, шматлікія канцэрты танцораў, спевакоў, музыкантаў. Кожнаму было цікава паўдзельнічаць у спаборніцтвах па нацыянальных відах спорту, прыняць удзел у конкурсе на лепшы нацыянальны анекдот.

Маштабы фестывалю ўражвалі: прыняць, размясціць, накарміць больш за тысячу гасцей у невялікім абласным цэнтры — гэта трэба ўмець!

Зазначу, што гаспадары горада здолелі вырашыць не толькі гэтыя пытанні. Напэўна, не кожны еўрапейскі горад знойдзе магчымасць так прыгожа "апрануцца" да свята, наладзіць такія феерверкі і, галоўнае, выйсці ўсёй грамадою на вуліцы, каб шчыра вітаць шматнацыянальныя фестывальныя шэсці.

Прыгадаю словы старшыні Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Аляксандра Білыка, якія ён сказаў, звяртаючыся да шырока прадстаўленай прэсы: "Беларусь — краіна, куды імкнуцца перабрацца на пастаяннае месца жыхарства не толькі беларусы з былых рэспублік СССР, але і жыхары тых краін, дзе адбываюцца нацыянальныя канфлікты, таму што ў нас існуе міжнацыянальная згода і дзяржаўная палітыка накіравана на тое, каб такое становішча было стабільным, распрацавана канцэпцыя нацыянальна-культурнага развіцця нацыянальных меншасцей Беларусі".

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: дыпломы фестывалю ўручае кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь, прафесар Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ; сярод гасцей фестывалю была 89-гадовая татарка Наліка РАМАЗАНАВА; беларускіх майстроў прадстаўлялі розныя ўмельцы, у тым ліку кавалі Юрый КРЫЖ і Мікалай РУДЗЯК; немцаў прадстаўлялі чароўныя жанчыны; спартыўныя спаборніцтвы; прылаўкі з вырабамі нацыянальнай кухні ўражвалі разнастайнасцю.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**








# НА СВЯЦЕ «АГУЛЬНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ–БЕЛАРУСІ»

За апошнюю тысячу гадоў гэтае места на Замкавай гары, якое называлі то Гародняй, то Горадняй, то Горадзенам, не бачыла столькі дружалюбнасці, сяброўскай прыхільнасці, "братачнасці", як сказаў пра такое пачуццё Янка Купала. Наш паэта-дзяржаватворца ў артыкуле "Незалежная дзяржава і яе народы", надрукаваным у 1919 годзе ў газеце "Беларус", адзначыў: "Бо ці ж знойдзецца на свеце болей дэмакратычны і ўжыўчывы народ, як народ беларускі? Сама натура, сама яго гісторыя сталеццямі гэтакім ужо выгадавала". Без усякай пыхлівасці і фанабэрыі можна сцвердзіць: апостал беларускага нацыянальнага духу Янка Купала быў справядлівы. І ў самыя скрутныя хвіліны сучаснай гісторыі наша дзяржава не спарадзіла міжнацыянальнага гвалту. Больш-менш атрымліваецца так, як і пільнаваўся "мудры гісторык" Янка Купала: "Кожны грамадзянін нашага краю павінен карыстацца і з роўнай пашаны, з роўнай абароны ў вачах права свету". Іван Дамінікавіч у сваім артыкуле называў у першую чаргу тых прадстаўнікоў нацыянальнай меншасці, суполлі якіх вякамі суайчынна жылі з беларусамі: палякі, расійцы, габрэі, татары... Сённяшняя Рэспубліка Беларусь прыняла пад сваё апякунства многіх бежанцаў-паязджанаў, людзей самых розных веравызнанняў, нацыянальнасцяў: карэйцаў, грэкаў, азербайджанцаў, армянаў, малдаванаў... У кожнай з суполак — свой шлях на Беларусь і адна доля з доляй тытульнай нацыі.

Але вернемся на старажытнае ўзвышша пры сутоку рэчкі Горадні (Гараднічанкі) і спеўнага Нёмана, да той хвілі, калі пад грываю Пегаса драмтэатра адкрываўся II Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур. Старшыня Гродзенскага аблвыканкома Аляксандр Дубко зачытвае прывітанне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, дзе гаворыцца пра "глыбокую непаўторнасць кожнага народа ў культурным сусвеце". Гэта, урэшце, клопат суграмадзянаў. А што абяцае ўлада? Будзем усе разам спадзявацца, што не застануцца дэкларацыямі наступныя словы кіраўніка дзяржавы: "Зберажэнне унікальных духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей народнай спадчыны, забеспячэнне іх арганічнага ўваходжання ў сучасны нацыянальна-культурны працэс, аднаўленне страчанага — гэтыя задачы набылі дзяржаўны характар. І ваш фестываль — яшчэ адзін крок у гэтым накірунку".

Прачытаўшы ў газеце аддрукаваны тэкст паслання, я зноў звярнуўся да Купалавага артыкула. Дбаючы аб вышэйшай гармоніі, паэт-палітык пісаў: "У вольнай, незалежнай Беларускай дзяржаве не павінна быць "ні эліна, ні іудзея". Янка Купала працытаваў радок з Бібліі, каб нагадаць паўнавартаснасць кожнага чалавека ў грамадстве, дзе ўсе — роўныя перад Богам. Бо гэта найпершая ўмова ўзаемапаважлівага, "братачнаснага" суіснавання рас, нацый, культур, палітычных і сацыяльных сістэм. Купала марыў аб увасабленні такога гарманічнага сужыцця народаў: "Усе роўныя перад дзяржаўнай уладай, усе роўныя перад правам і законам, усе вольна развіваюць сваю нацыянальную культуру і самабытнасць, кіруючыся ў сваёй грамадзянскай працы дабрабытам агульнай бацькаўшчыны—Беларусі".

Дзяржаўны і рэгіянальны клопат аб фестывалі чуўся і бачыўся на кожным нацыянальным падворку, у канцэртнай праграме кожнай з 12 нацыянальных суполак (а зарэгістравана 23 культурна-асветніцкія аб'яднанні). Уявіце: іду сабе ад плошчы Тызенгаўза да Новага ці Старога замка, мінаю парк Э. Жэлібера... З вуліцы Каліноўскага трапляю на праспект Янкі Купалы, потым — на вуліцу Стэфана Баторыя. Вуліцы Замкавая і Э. Ажэшкі, помнікі Вітаўту і Янку Купалу, музей М. Багдановіча... На мастацкай выставе "Пад адным небам" — "Радзівілаўскія прывіды" У. Тоўсціка і мая родная "Дзісенская кераміка" А. Марачкіна. Прабачаю таго Усеваладка з Горадна, які ў 1127 годзе пайшоў адсюль паходам на маю Полацкую зямлю. Без летапіснай згадкі пра тую "няўжыўчывую" падзею не было б юбілейнага свята Горадні. Паўсюль напісана: "Гродна — 870". Юбілей можна было б святкаваць яшчэ летась, але прымеркавалі феерверкі да фестывалю.

О, гародненскія карагоды 22—24 траўня 1998 года! Чуць было вырваўся з чароўнага круга, дзе танцуюць грэчаскі класічны "Сіртакі", як ахаладнелыя пад дажджом малдаване вабяць у свой круг. Не, не змагу згадзіцца з старшынёй гарвыканкома Анатолем Пашкевічам, што Гродна — маленькі Ватыкан. Тут вялікая сталіца Згоды і Пабрацімства. Тут пляскаюць у ладкі пасля ўдалых нумароў тыя прадстаўнікі дыяспараў, суайчыннікі якіх на зямлі продкаў усё яшчэ не могуць закурыць "трубку міру". Папуры з вядомых габрэйскіх песняў (а ў маім родным мястэчку Лявонпаль на беразе Дзвіны было да вайны — мама ўспамінала — 11 крамак, дзе і сялёдкі з лёкам прадаваліся. Сёлета туды зрэдзь аўталаўка наведваецца). Хто б мне ўзнавіў і той акцэнт, і тую міміку перажыўшых вайну нашых Абрамкі і Соркі?

Мілыя, незнаёмыя жэсты караянак... Божа, які шчодры дар Ты даеш Беларусі! І мне, бо я ўсё сваё жыццё шукаў кропкі судакранання з тым народам, дзе надарылася бываць. Глядзеў і слухаў украінцаў, прыпамінаючы сваё: "Мэ фэцыт Львів" (Мяне зрабіў Львоў. Па аналогіі з надпісам на слуцкіх паясах: "Me fecit Sluck"). Вельмі шкадаваў толькі трох прадстаўнікоў саюза латышоў "Даўгава" з Віцебска. Усё Падзвінне — даўняе месцажыхарства балтаў. Мая пачатковая школа ў Мёрскім раёне месцілася ў вёсцы Латышы. Ушацкі дзед Рыгора Барадуліна — Андрэй Галвіньш. Дзед Анатоля Дзяленздзіка — Яніс Простакс... Крывіцка-балцкая дыфузія ў эрытрацытах Андрэя Упіта і Яніса Райніса. Наша дзяржава ў вялікім даўгу перад Айчынай Райніса. Бо латвійская зямля ўзгадавала таленты беларускай нацыянальнай меншасці, стварыўшы для яе культурна-нацыяльную аўтаномію. Для Лігі нацый Латвія 20-х гадоў была прыкладам вырашэння жыццядзейнасці нацыянальных меншасцяў. Хай бы і Рэспубліка Беларусь стала прыкладам інтэрнацыяналісцкай чыннасці!

На закрыцці свята старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Аляксандр Білык аб'явіў, што наступны фестываль можа стаць міжнародным — Фестывалем нацыянальных культур СНД. Але гэта зусім іншае свята. Не хацелася б, каб разбурылася мацерыковасць, калыскавы каркас першых двух фестываляў-сугуччаў. Можна падвысіць статус дзеі, пазбавіўшыся "рэспубліканскай" заангажаванасці. Паводле былых устойлівых каардынатаў, праводзіліся спачатку раённыя, потым абласныя, рэспубліканскія і — нарэшце — усесаюзныя агляды-фестывалі. Трэці раз можна прамовіць так: Фестываль нацыянальных культур Рэспублікі Беларусь. Думаю, што і Янка Купала быў бы не супраць. Але на сёння вядома адно: фестываль пройдзе ў Гародні. Таму смела можна развітацца:

— Да двухтысячнага года, стольны Горадзен!

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня рады таварыства "Беларусь — Латвія".**

З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# ЧАЛАВЕК ДЗЕІ

*Хоць змрочны далягляд*
*перад вачыма*
*І цяжкі камень на душы*
*ляжыць,*
*Спяваць без хвалявання*
*немагчыма,*
*Без спадзявання*
*немагчыма жыць.*

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**



Узнаўленне беларускага жыцця ў Вільні на пачатку 90-х гадоў пачалося, безумоўна, у большай ступені дзякуючы тым традыцыям, якія існавалі на Віленшчыне да прыходу бальшавікоў, падштурхнула гістарычная памяць, багатае гістарычнае мінулае.

Узнавілася таму, што жылі ў Вільні людзі, якія за беларускасць правялі дзесяткі гадоў у сталінскіх лагерах, потым вярнуліся і, нягледзячы на забароны, тайна збіраліся ў "лясной хатцы" Зоські Верас, у Зоі Каўшанкі, Лявона Караля і ў савецкія часы спявалі беларускія песні, цікавіліся літаратурай, дзяліліся ўспамінамі. Гэта нашчадкі беларускай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя (Лявон і Юры Луцкевічы, Лявон Кароль, Мікола Рулінскі), вучні Віленскай беларускай гімназіі.

Менавіта дзякуючы ім, пачалі ўзнікаць беларускія суполкі, дзякуючы іх аўтарытэту ў літоўскім грамадстве. Тады было складана. Цяпер, у апошнія два гады, як грыбы, пачалі ўзнікаць розныя суполкі і іх кіраўнікі, хаця раней былі па розныя бакі "барыкад". Пра такіх людзей вельмі дакладна сказаў Янка Купала ў п'есе "Тутэйшыя" ў вобразе М. Зносака — прыстасаванцы. Хай застаецца гэта на іх сумленні.

Дзесяць гадоў у Вільні існуе Таварыства беларускай культуры. Дзесяць гадоў кіруе ім Хведар Нюнька. Тое, што зроблена ТБК, зроблена намаганнямі кіраўніка. А зроблена вельмі і вельмі шмат для гісторыі і нашчадкаў. Памятаю 1989 год, паездку ў Вішнева да ксяндза У. Чарняўскага і пісьменніка Пятра Бітэля, які распавёў не толькі пра творчую дзейнасць, але і пра тое, як, седзячы за кратамі, ён пераклаў на беларускую мову паэму "Пан Тадэвуш" Адама Міцкевіча, потым перакладаў і іншыя творы. У 1989-м адсвяткавалі 70 гадоў беларускай гімназіі. 1990 год — перазахаванне праха Францішка Аляхновіча, праз год — Івана Луцкевіча. На могілках Росы і Ліпоўцы пастаўлены помнікі братам Івану і Антону Луцкевічам, Ф. Аляхновічу, кампазітару Паўле Карузе, Зоі Каўшанцы і іншым беларускім дзеячам. Устаноўлены памятныя шыльды на дзвюх мовах на будынках, дзе жылі Янка Купала, Браніслаў Тарашкевіч, Рыгор Шырма, Вацлаў Ластоўскі, Пятро Сергіевіч, Францішак Скарына, на будынку, дзе быў зняволены перад пакараннем Кастусь Каліноўскі. А колькі імпрэз праведзена і праводзіцца — памяці Ларысы Геніюш, Максіма Танка, У. Жылкі, У. Дубоўкі, Зоські Верас, Наталлі Арсенневай. Усяго нельга пералічыць. Сустрэчы з пісьменнікамі: В. Быкавым, Р. Барадуліным, Н. Гілевічам, У. Арловым, некалькі разоў прыязджала Галіна Дзягілева з тэатрам "Зьніч".

Намаганнямі спадара Хведара Нюнькі вернуты дамкі, якія да вайны былі маёмасцю беларусаў, зараз там размяшчаецца бібліятэка ТБК, зала і рэдакцыя газеты "Рунь", заснаванай таварыствам. Рыхтуецца да выдання кніга Лявона Луцкевіча "Па беларускіх мясцінах Вільні". Таварыства дапамагло перакласці з літоўскай на беларускую мову і выдаць кнігу Ч. Кудабы "Па Віліі". Хведар Нюнька быў адным з ініцыятараў адкрыцця беларускай школы ў Вільні, беларускіх перадач на літоўскім радыё і тэлебачанні.

Днямі яму споўнілася 70 гадоў. Мала гэта ці многа? Калі глядзець, што зроблена, то вельмі многа: бясцэнны ўклад унесены ў адраджэнне беларускасці на Віленшчыне, у аднаўленне помнікаў. Інтэлектуальныя імпрэзы, што праводзяцца ў ТБК, маюць гістарычнае значэнне.

Моцнага вам здароўя, здзяйснення жыццёвых мар, аптымізму!

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

**НА ЗДЫМКУ:** спадару **ХВЕДАРУ —70 гадоў. 1998 г.**

# СВЯТА-КОНКУРС БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ Ў САЛЕЧНІКАХ

*"Не трэба забываць:*
*трывала толькі тое,*
*што сваімі каранямі*
*звязана з народам".*

**С. ТАНЕЕЎ.**

Заўважыла: калі ў Салечніках ладзіць значнае мерапрыемства Беларускі культурны цэнтр, заўсёды добрае надвор'е. Так было і 10 мая: выдалася цёплая, сонечная нядзеля. Салечнікі — у напрамку Воранава. У многіх ёсць агароды, лецішчы, а зараз там вельмі шмат працы. Але, нягледзячы на занятасць, многія жыхары прыйшлі ў Дом культуры, дзе праходзіла "Свята-конкурс беларускай песні". На свята прыехала беларуская дыяспара Вільні і Вісагінаса.

Рыхтаваліся загадзя, спачатку запрасілі жадаючых, а іх было надта ж многа: амаль у кожнай вёсцы раёна ведаюць і спяваюць беларускія песні, нават ладзяць вячоркі. Потым выбіралі лепшых, прайшоў конкурсны адбор. Удзельнічалі ў свяце дзесяць калектываў, якія выканалі па тры песні. Адкрыў свята калектыў Яшунскага дома культуры, яго змяніў ансамбль "Тургелянка" з вёскі Тургелі, потым выступіў Руднінскі дом культуры, жаночы ансамбль і дуэт з Салечнікаў.

"Проста выдатна!" Такія чуліся водгукі з залы пасля выступлення трыо "Чараўніцы" з вёскі Трыбанцы, якія выканалі песні "Ой, чыё ж там поле, чые пракосы", "Жыта ў полі", "Дзе б я ні ехала, дзе б ні ішла". Доўга працягваліся воплескі пасля выступлення дуэта Акменінскага дома культуры. Ну а пасля выступлення капэлы з Эйшышак цяжка было ўстрымацца, каб не пайсці ў скокі.

Павіншаваць і падтрымаць удзельнікаў свята прыехаў прадстаўнік Таварыства беларускай культуры ў Вільні Андрусь Старавойтаў. У яго-ным сольным выкананні прагучалі песні: "Летняя ночка купальская", "Я ад вас далёка", "Паехаў я ў сваты". Беларускі хор "Шчара" з Вісагінаса часта выступае перад жыхарамі свайго горада. У сакавіку паказалі канцэртную праграму ў Вільні і ў Салечнікі прыехалі, асабліва спадабалася гледачам "Полька беларуская" на словы Леаніда Дранько-Майсюка. Брава! Апладзіравалі прысутныя вакальна-інструментальнаму ансамблю Калесніцкага дома культуры. Яны на суд гледачоў прадставілі песні "Цыганка" на словы Л. Дранько-Майсюка, "Вы шуміце, шуміце" на словы Ніла Гілевіча і "Цячэ вада ў ярок".

Хутка праляцелі дзве гадзіны. Конкурс завяршыўся. Журы, у склад якога ўвайшоў оперны спявак Леанід Мурашка, падвяло вынікі. "Цяжка было выбіраць, лепшыя ўсе, усіх хацелася ўзнагародзіць", — адзначыў Л. Мурашка. Гэта так. Пакарыў высокі ўзровень выканання, удала падабраны рэпертуар — ад народнай да сучаснай песні, прафесійнае музычнае суправаджэнне — усё гэта прыемна ўразіла. Як, дарэчы, і тое, што ўсе калектывы выступалі ў нацыянальных строях. Самымі лепшымі прызнаны: калектыў з Руднінкаў, вясковая капэла з Эйшышак адзначана як лепшая дэпартаментам нацыянальных меншасцяў Літвы, дуэт з Акмянскага дома культуры запрошаны на запіс літоўскім тэлебачаннем, узнагароды атрымалі і іншыя...

Удзельнікі свята на пытанне, адкуль ведаюць столькі беларускіх народных песень, адказалі: "Ад сваіх бабуль, якія захавалі даўнейшыя песні". У вянку культур Літвы будзе прыгожай кветкай гучаць беларуская песня, яна будзе заўсёды жыць на гэтай зямлі.

— Сёння ў мяне самы шчаслівы дзень. Свята прайшло паспяхова, — сказаў арганізатар, ініцыятар, загадчык Беларускага культурнага цэнтра ў Салечніках Пятро Малафей.

— Беларусаў тут многа жыве, вы арганізаваныя, у вас шмат творчай інтэлігенцыі, таму і беларуская культура будзе расцвітаць, — адзначыла прадстаўнік дэпартамента Літвы Л. Жыльцова.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

# СПЯШАЎСЯ ЖЫЦЬ І ТВАРЫЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Мінск, дзе прайшлі лепшыя гады жыцця. Беларусь стала для яго другой радзімай. Тут сустрэў ён сваіх аднадумцаў. Каля яго гуртавалася творчая моладзь, якая падзяляла погляды творцы на мастацтва.

Аляксандр Кішчанка — мастак шматпланавы. Ён многа зрабіў у галіне манументальнага і станковага жывапісу, у адраджэнні мастацтва габелена. Мінчане ведаюць яго найперш як манументаліста па маштабных мазаічных кампазіцыях на тарцах жылых дамоў у мікраёне Усход-1, на фасадзе гасцініцы "Турыст", на будынку, што знаходзіцца на Юбілейнай плошчы сталіцы, і іншых.

З'явай у культурным жыцці рэспублікі сталі габелены А. Кішчанкі. Яны ўпрыгожваюць інтэр'еры розных навучальных і грамадскіх устаноў. Цяжка сёння ўявіць без гэтых твораў, напрыклад, холы гасцініцы "Турыст" і Мінскага музычнага вучылішча. Габелены мастака ведаюць не толькі на Беларусі. Яны вядомыя далёка за межамі нашай краіны — на радзіме майстра ў Варонежскай вобласці, у санаторыі "Беларусь", што ў Крыме, і нават у Нью-Йорку, дзе ў штаб-кватэры ААН знаходзіцца яго габелен "Чарнобыль". Дзяржаўнай прэміяй быў адзначаны адзін з апошніх твораў гэтага віду мастацтва — "Габелен стагоддзя". Разам з тым ён выклікаў шмат супярэчлівых меркаванняў.

На выставе ж у Палацы мастацтва паказаны жывапіс Аляксандра Кішчанкі. У экспазіцыі — каля 90 палотнаў. Няцяжка заўважыць, што значная іх колькасць створана ў апошнія гады жыцця. Гэта, відаць, быў час, калі творца жыў вострым прадчуваннем непазбежнасці бяды. Складваецца ўражанне, што ён спяшаўся, каб зрабіць як мага болей. Пры гэтым ён жыў надзеяй, марыў пра сваю выставу, абмяркоўваў яе з блізкімі яму па духу людзьмі.

У шматлікіх жывапісных палотнах, развешаных на сценах вялікай па плошчы — каля 1 000 квадратных метраў — залы, яго мастакоўскае бачанне і разуменне свету. Экспазіцыя пакідае ўражанне дэкаратыўнага стракатага дывана, у якім мастак аддае перавагу вохрыста-блакітнай і сіняй колераваЙ гаме. Сваю неабыякавасць да гэтых колераў А. Кішчанка засведчыў і ў вершаваных радках:

> **Голубые тени голубого дня.**
> **Серебряные звуки вновь**
> **зовут меня**
> **В голубое небо, в голубую**
> **даль.**
> **Серебряные звуки —**
> **моя печаль.**

Сярод твораў — шмат жаночых партрэтаў. Адметнасць іх, на наш погляд, — у мазаічнасці. І нягледзячы на гэта, захоўваецца цэльнасць кожнага палатна, якое нясе адметную каляровую энергетыку. Аляксандр Кішчанка быў наватарам з самага пачатку свайго творчага шляху. Старэйшае пакаленне мастакоў не заўсёды разумела і прымала ягоныя навацыі. Але насуперак гэтаму ён заставаўся верны сваім прынцыпам. Нацюрморты А. Кішчанкі не зблытаеш з іншымі. У іх свая стылістыка, шматколерная палітра і гармонія. Мастак пісаў тое, што добра ведаў, любіў і разумеў. Шэраг карцін прысвяціў ён сваёй сям'і — жонцы і сыну: "Максім", "Нараджэнне", "Ніна і Максім", "Мацярынства" і іншыя. Ва ўсіх жывапісных палотнах мастака адчуваецца манументальна-дэкаратыўны падыход.

У адкрыцці выставы браў удзел міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, з якім мастак часам дзяліўся сваімі планамі, задумамі. Трыццаць пяць гадоў ведаў А. Кішчанку народны мастак Леанід Шчамялёў. Ён гаварыў пра свайго калегу не толькі як пра вялікага мастака, але і як таленавітага педагога. На працягу сямі гадоў А. Кішчанка працаваў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага роспісу. Фактычна, ён разам з Гаўрылам Вашчанкам заклаў падмурак гэтага віду выяўленчага мастацтва. Адчуваўся яго пастаянны ўплыў на выхаванне моладзі, на агульнае развіццё беларускага мастацтва. Ад імя вучняў А. Кішчанкі выступіла мастачка Зоя Літвінава. Яна характарызавала свайго настаўніка як чалавека вельмі чулага і ўважлівага літаральна да кожнага студэнта. Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў гаварыў пра А. Кішчанку як асобу адметную і унікальную, творчасць якога не ведала межаў: "На вышыні свайго творчага палёту ён быў блізкі да Космасу, што занатавана амаль ва ўсіх яго творах, у тым ліку і ў вершаваных радках".

> **Белый лист, пророк немой,**
> **Я исповедуюсь тебе.**
> **Между земным и неземным**
> **Я повис в голубой петле,**
> **Так и не разгадав**
> **Бесконечности миров.**

Шмат цёплых, шчымлівых слоў сказаў мастацтвазнаўца Барыс Крапак, пяру якога належыць не адна публікацыя пра творчасць А. Кішчанкі. Скульптар Святлана Гарбунова зачытала тэлеграму, якая была даслана на адрас Беларускага саюза мастакоў з Японіі, ад пасла Рэспублікі Беларусь Пятра Краўчанкі. У яе радках — смутак у сувязі з заўчаснай смерцю мастака і радасць, што маем магчымасць належным чынам ушанаваць яго памяць. Пётр Кузьміч прыгадвае, як разам з мастаком ён быў у Нью-Йорку. Там, у ААН, высокую ацэнку атрымаў габелен А. Кішчанкі "Чарнобыль", які ён стварыў амаль безганарарна. Афарыстычнымі сталі словы з ягонага бліскучага выступлення: "Мастацтва — вочы народа". Іх можна лічыць эпіграфам да жыцця і творчасці мастака. Пётр Краўчанка выказвае шкадаванне, што не можа прысутнічаць на ўрачыстым адкрыцці выставы, прысвечанай унікальнаму мастаку, які віртуозна валодаў пэндзлем, словам, песняй, вершам. Мог імправізаваць на любую тэму.

Слова ад калег-манументалістаў прамаўляў старшыня секцыі Юры Багушэвіч. Удзячнасць кіраўніцтву Беларусі, Міністэрству культуры, усім, хто спрычыніўся да арганізацыі гэтай выставы, выказала жонка мастака Ніна. Дарэчы, дзякуючы яе намаганням, быў выдадзены цудоўны каталог выставы, у падрыхтоўцы якога ўдзельнічалі Тамара Кіршына, мастак Уладзімір Васюк, аўтар уступнага артыкула Уладзімір Пракапцоў, рэдактар Генадзь Бураўкін. Андрэй Спрынчан і Віктар Стралкоўскі забяспечылі слайды і фотаматэрыялы.



Аляксандр Кішчанка належыць да тых нямногіх творцаў, якіх высока ацаніў урад Беларусі. Праз два месяцы пасля смерці была прынята пастанова Савета Міністраў аб ушанаванні памяці народнага мастака, лаўрэата Дзяржаўных прэмій. Імя Аляксандра Кішчанкі прысвоена Барысаўскаму камбінату ўжытковага мастацтва, засведчана рашэнне аб устаноўцы надмагільнага помніка, мемарыяльнай дошкі на доме 42 па вуліцы Сурганава ў Мінску, дзе жыў і працаваў мастак.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Аляксандр КІШЧАНКА і яго работы "Ніна і Максім" і "Адвечнае".**



У СКАРБОНКУ ЛІТАРАТУРНАЙ ПАМЯЦІ

# УЛАДЗІМІР ЮРЭВІЧ І ПУХАЎШЧЫНА

**Багатая пухавіцкая зямля на літаратурную памяць. Многія беларускія паэты, празаікі з'яўляюцца ўраджэнцамі Пухаўшчыны. Некаторыя з літаратараў-сучаснікаў усталявалі ў пухавіцкіх мясцінах лецішчы. А яшчэ многіх з Пухаўшчынай яднаюць частыя сустрэчы, сувязі і праз бацькоў, якія тут жылі раней.**

Як, прыкладам, цесна паяднаны з Пухаўшчынай і вядомы пісьменнік лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Юрэвіч. Крытык, літаратуразнаўца, дзіцячы празаік, публіцыст, чалавек, які дзесяцігоддзі сваёй працы аддаў радыёклубу "Жывое слова", перадачы, школу выхавання якой прайшлі многія сучасныя літаратары, — і гэта далёка не ўсе адмеціны ў творчай біяграфіі вядомага пісьменніка.

Калі ўжо зайшла размова пра перадачу "Жывое слова", то варта згадаць, што шмат яна значыць у творчым лёсе паэта Вольгі Савасцюк. Многія яе вершы школьнай пары, ды і пазнейшых часоў, гучалі ў радыёэфіры якраз праз радыёклуб "Жывое слова". Заўсёды — з цёплымі, прыязнымі каментарыямі Уладзіміра Юрэвіча. Да месца будзе заўважыць і тое, што на секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Савасцюк рэкамендавана для прыняцця ў гэтую аўтарытэтную творчую арганізацыю краіны. Адна з абавязковых трох пісьменніцкіх рэкамендацый дадзена Уладзімірам Міхайлавічам.

Працуючы на радыё, адрасуючы свае кнігі школьніцтву, дзецям, пісьменнік неадноўчы сустракаўся з дзіцячымі, школьнымі аўдыторыямі. Пісьменніку заўсёды ёсць што расказаць. Тым болей, што юнаму чытачу розных пакаленняў добра знаёмыя яго кніжкі апавяданняў "Тараскавы турботы" (1966), "Дождж на колах" (1977), "Дзе начуе сонца" (1970). А яшчэ ж кнігі асветніцкага, папулярызатарскага плана — "Мінск учора, сёння, заўтра" (1982), "Янка Купала" (1983). Дык вось з расповядам пра працу над гэтымі кнігамі найперш і ішоў у школу Уладзімір Міхайлавіч. Пытаюся ў пісьменніка, а ці бываў на Пухаўшчыне?

— А як жа! — маладым, пастаўленым голасам адказвае Уладзімір Міхайлавіч, якога і мне асабіста хочацца назваць настаўнікам у літаратурнай творчасці. — Ці не тройчы ў Мар'інай Горцы выступаў. Здаецца, напрыканцы 1960-х быў у Пухавіцкай дзесяцігодцы. Сустракаўся і з дзецьмі ў Тальказскай школе.

Вядома ж, працуючы ў апараце Саюза пісьменнікаў Беларусі, Уладзімір Міхайлавіч ведаў і многіх пісьменнікаў Пухаўшчыны. Але ёсць у Юрэвіча яшчэ адна досыць цікавая, важная ў гісторыка-краязнаўчым плане повязь з пухавіцкай зямлёй. У 1904 годзе бацька пісьменніка — Міхаіл Юрэвіч прыехаў на працу настаўнікам у толькі што адкрытае Узлянскае пачатковае вучылішча. Вось і радок у гісторыю адукацыі на Пухаўшчыне. Працавалі, гэта ўжо Уладзімір Міхайлавіч перадае расповяд бацькі, ва Узлянах (ці Вузлянах?) маладому настаўніку было досыць нялёгка. Сяляне не вельмі актыўна аддавалі дзяцей на вучобу. Ды і сваю ролю адыгрываў той факт, што мястэчка было ў большай частцы яўрэйскім. Працаваў ва Узлянах хедар — яўрэйскае пачатковае рэлігійнае вучылішча для хлопчыкаў. Меўся і аўтарытэтны рабін. А як вядома, у хедарах адмаўлялі вывучэнне свецкіх навук. Такое грамадскае, асветніцкае супрацьстаянне, часцей — маўклівае, вонкава малапрыкметнае, вытрымаць было няпроста. І ўжо ў 1905 годзе малады настаўнік перазяджае ў Астрашыцкі Гарадок.

З колішніх апавяданняў бацькі Уладзімір Міхайлавіч запомніў, з якой захопленасцю той расказваў пра "пана", які, сёдзячы ў маёнтку, поўзаў па небе". Гэта цяпер усе мы ведаем, хто гэта такі, якіх маштабаў асоба — прафесар электраграфіі і магнетызму Якуб Наркевіч-Ёдка. А тады, у 1920—1930-я, імя яго дужа на Беларусі не згадвалася. Міхаіл Юрэвіч, відавочна, і сустракаўся з Якубам Наркевічам-Ёдкам. Не так ужо далёка ад Узлян знаходзіўся маёнтак вучонага. Ды і ў 1904 годзе Якуб Наркевіч-Ёдка быў яшчэ на Беларусі. Гэта ўжо крыху пазней вучоны ад'ехаў у Вену, дзе і памёр 19 лютага 1905 года. Але, нават калі і не сустракаўся з ім Міхаіл Юрэвіч, усё роўна яго ўспаміны пра Наркевіча-Ёдку сведчаць: прастора вядомасці навуковых клопатаў нашага суайчынніка была досыць шырокай. І памяць адпаведна трымалася. Няхай сабе і ў вусных апавяданнях, у свядомасці людзей.

Не чужая, словам, Юрэвічам пухавіцкая зямля. Знаёмая здаўна, прызнаная і адкрытая здаўна. Мо з часам нітачак, повязяў складзецца яшчэ болей. Рыхтуюцца да выдання новыя кнігі Уладзіміра Юрэвіча. Паранейшаму, нягледзячы на сталы ўзрост (нарадзіўся Уладзімір Міхайлавіч у 1916), пісьменнік працуе за пісьмовым сталом. Мо з'явяцца з-пад пяра Уладзіміра Юрэвіча ўспаміны пра Чарота, Хадыку, Паслядовіча, Бачылу, Кляўко ды іншых пухавіцкіх літаратараў, з кім бачыўся, сустракаўся, разам працаваў, пра каго, вядома ж, трымае ў памяці самыя розныя драбніцы і драбнічкі. Для краязнаўства, літаратурнай гісторыі, проста для нашчадкаў важны кожны ўспамін.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

# ІДЭЙНЫЯ ПАБРАЦІМЫ ДЗЕКАБРЫСТАЎ

І яшчэ адно на нацыянальнай вуліцы свята: услед за аднатомнікамі Яна Чачота, Максіма Багдановіча, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Жылкі, зборнікам "Беларускія летапісы і хронікі" ў "Беларускім кнігазборы" з'явілася і кніга "Філаматы і філарэты", якая, прызнацца, нават на фоне тых, што выйшлі ў згаданай бібліятэцы дагэтуль, вылучаецца. Канечне, не афармленнем — яно традыцыйнае, серыйнае. Проста з'яўленне падобнага зборніка наспявала даўно, з таго яшчэ моманту, калі мы нарэшце ўсвядомілі, што беларуская літаратура — гэта не толькі творы, напісаныя на роднай мове, а і на лаціне, і папольску. Бо так ужо склаліся неспрыяльна гістарычныя абставіны, што творцы, каб іх слова пачулі, вымушаны былі карыстацца не той мовай, якой спрадвеку гаварыў народ, а той, што знаходзілася ў афіцыйным ужытку ці ёю карысталіся ў "цывілізаваным" грамадстве. І гэтае вяртанне свайго пачалося з таго моманту, калі, дзякуючы Якаву Парэцкаму (зрабіў падрадкоўнік) і Язэпу Семяжону, які выступіў у ролі перакладчыка, у 1973 годзе нарэшце з'явілася па-беларуску паэма беларускага паэта-лацініста Міколы Гусоўскага "Песня пра зубра", а ўслед за гэтай першай ластаўкай і іншыя "беларускія" птушкі дружна пачалі вяртацца з выраю.

Ды не буду займацца пералікам. І таму, што ён зойме нямала месца, але найперш па іншай прычыне: сам то паспеў уважліва пазнаёміцца ўжо з "Філаматамі і філарэтамі", дык чаму ж не прадаставіць такую магчымасць іншым, хто пакуль гэтую кнігу не набыў, але, упэўнены, паспяшаецца набыць. Дарэчы, і выдаўцы ўпэўнены, што цікавасць да зборніка будзе вялікая. Таму загадзя прадугледзелі падобную акалічнасць. Калі, для прыкладу, аднатомнікі Я. Чачота і М. Багдановіча выходзілі накладам чатыры тысячы паасобнікаў, а тыраж наступных кніг павялічыўся да шасці, дык гэтай перавысіў дзесяць тысяч.

"Філаматы і філарэты" з'явіліся дзякуючы рупнасці Кастуся Цвіркі. Але ў даным выпадку зусім не таму, што ён узначальвае "Беларускі кнігазбор", стаяў ля яго вытокаў, а таму спрычынены да ўсіх вышэйзгаданых кніг, як, зразумела, і да тых, што пабачаць свет у перспектыве. Кастусь Аляксеевіч, хоць падобнае параўнанне крыху і нацягнутае, сааўтар "Філаматаў і філарэтаў". Ён з'яўляецца ўкладальнікам зборніка, перакладчыкам польскамоўных твораў, каментарыя і, як сказана ў выхадных даных, аўтарам "біяграфічных даведак". А ў апошнім якраз і хочацца засумнявацца, бо гэта ніякія не даведкі, а разгорнутыя артыкулы, блізкія нарысам, эсэ пра кожнага з тых, чые творы прадстаўлены пад адной вокладкай.

Каб жа атрымаць пра іх поўнае ўяўленне як пра сыноў "адной сям'і, трэба ўважліва пазнаёміцца з прадмовай "Паданне пра філаматаў, або Доля аднаго пакалення". Канечне, у агульных рысах пра філаматаў і філарэтаў пераважная большасць з нас ведае яшчэ са школьных гадоў. Праўда, веданне гэтае павярхоўнае, бо тагачасныя падручнікі абмяжоўваліся толькі канстатацыяй самога факта, аўтары не рупіліся дэталёва разабрацца, а што вывела на палітычную арэну гэтых таленавітых прадстаўнікоў і на самай справе, як гаворыць К. Цвірка, "аднаго пакалення".

Наконт гэтага аўтар прадмовы і разважае падрабязна, засяроджваючы ўвагу нават, здавалася б, на дробязях, бо, канечне ж, разумее, што там, дзе стаяла пытанне аб абуджэнні нацыянальнай свядомасці, аб жаданні бачыць сваю Радзіму свабоднай, дробязяў няма і быць не можа. Але за што трэба быць асабліва ўдзячным К. Цвірку — ён не збіраецца "асучасніваць" ні сваіх герояў, ні іх дзейнасць, а прапануе аб'ектыўны погляд на тагачасныя з'явы і падзеі. Апошняе таксама немалаважна, бо сумненняў не выклікае і тое, што знаходзяцца ахвотнікі кідацца ў крайнасці, характэрныя ў свой час бальшавікам. З той толькі розніцай, што, выдаючы жаданае за рэальнае, яны прыпісваюць выдатным прадстаўнікам розных часоў тое, чаго ў іх паводзінах, поглядах ніколі не было, а ў выніку паўстае як бы сучасны погляд на Беларусь і беларусаў.

Наконт гэтага істотна і важна такое сцвярджэнне К. Цвіркі: "Філаматы, якія амаль усе паходзілі з беларускай, хоць і апалячанай, шляхты, будучыню сваёй Беларусі бачылі ў аднаўленні былой Рэчы Паспалітай. Толькі ў яе рамках магла быць, на іх думку, вернута самастойнасць былой магутнай беларускай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага. Адсюль іх усвядомленае змаганне за "Польшчу", як стала называцца агульная для палякаў, беларусаў, літоўцаў і часткова ўкраінцаў Рэч Паспалітая. У сапраўднасці філаматы ні на хвіліну не забываліся, што яны — "ліцвіны", дзеці "Літвы", г. зн. Беларусі, якраз дзеля яе асветы, дзеля яе вызвалення з-пад царскага прыгнечання і стварылі свае згуртаванні, якраз яе называлі сваёй радзімай, яе апявалі ў вершах, песнях, баладах, паэмах (успомнім хаця б Міцкевічава "Літва, айчына мая!..").

Гэтаксама аргументавана разглядае К. Цвірка і тыя мэты, якія ставілі перад сабой царскія ўлады, а значыць і карныя органы, калі грамілі гэтыя арганізацыі. Яны дзейнічалі рашуча не столькі з-за таго, што філаматы і філарэты ўяўлялі для дзяржавы вялікую небяспеку. Яны, як кажуць, глядзелі і ў будучыню, каб прадухіліць магчымасць з'яўлення новых непакорных, каб своечасова падрэзаць ім крылы: "Высылаючы філаматаў і філарэтаў з "акругі Віленскага універсітэта" ў Расію, царскія ўлады хацелі дасягнуць аднача сова некалькі мэт: першая — гэта, вядома ж, пакаранне маладых людзей за вальнадумства — "в назидание" іншым, другая — знішчэнне ў самым зародку беларускага нацыянальнага руху і трэцяя — рабаванне "мазгоў", інтэлектуальнага патэнцыялу Беларусі". І тут аўтар прадмовы да месца прыводзіць меркаванне, што наконт гэтага прагучала раней з вуснаў аднаго з тых, хто цікавіўся згаданай праблемай: "Д'ябальскі план, — правільна разгледзеўшы гэтыя мэты царызму, зазначыў польскі даследчык Адам Крэхавецкі, які, праўда, па-свойму глядзеў на філаматаў, — патушыць святло ў самай лепшай навучальнай установе, вынішчыць у ёй нацыянальны дух, а тых, што былі выхаваны ў гэтым духу і што маглі пашыраць яго далей, вывезці далёка па-за межы краю і прымусіць, каб сваю працу і інтэлектуальныя сілы яны аддалі на карысць агульнай іх айчыны — Расійскай дзяржавы".

Не ўлічваючы правільна ўсе вышэйзгаданыя рэаліі, нельга зразумець і творчасць гэтых вальналюбцаў "аднаго пакалення", як і цяжка ўсвядоміць, чаму ўзнікае неабходнасць іх творчасць прадставіць менавіта пад адной вокладкай. А таму, пра што таксама не прамінае сказаць К. Цвірка, і на чым засяроджвалі ўвагу гісторыкі літаратуры раней, напісанае філаматамі і філарэтамі мае "ў многім калектыўны характар". Яны скарыстоўвалі нярэдка адны і тыя ж сюжэты і "як бы спаборнічалі ў іх паэтычнай распрацоўцы". Прынамсі, на гэта звярнуў увагу ў сваёй кнізе "З кола філамацкага перадрамантызму" С. Свірка, на якога і спасылаецца аўтар прадмовы. Але не абмяжоўваецца меркаваннем "чужога" даследчыка, а на падобных аспектах засяроджвае і ўласную пільную ўвагу. У прыватнасці, робіць выснову: "Калі добра прыгледзецца, у творчасці ўсіх філаматаў і філарэтаў можна знайсці нямала прыкладаў ...творчага ўзаемадзеяння, шчодрай "пазыкі" адзін аднаму тэм, вобразаў, матываў сваёй паэзіі, фактаў творчай узаемадапамогі". Але разам з тым, што грэх не прызнаць: кожны з аўтараў і самабытны творца, і, канечне, розныя велічыні талент.

У кнігу пашчасціла трапіць дзесяці аўтарам. І не толькі паэтычнымі творамі, а і пісьмамі, дзённікавымі, падарожнымі запісамі. Усе гэтыя творы пададзены ў перакладзе з польскай мовы. Выключэнне — беларускамоўныя творы Я. Чачота "Яжовыя імяніны" (урывак), "На прыезд Адама Міцкевіча", "Нашто нам дым выядае вочкі?..", "Да мілых мужычкоў".

Асобую танальнасць зборніку надаюць паэтычныя радкі А. Міцкевіча, пастаўленыя К. Цвіркам у якасці эпіграфа да кнігі. Парыж 1832 года, паэт-выгнаннік у далечыні ад любай бацькоўскай зямлі, ад мілых сэрцу краявідаў. І ён прыгадвае тое, што ніколі не магло забыцца і не забывалася. І гэтыя ўспаміны — і светлыя, і гаркавыя адначасова — у дачыненні да твораў іншых аўтараў, іншых філаматаў і філарэтаў набываюць заканамернасць і агульнасць. Многія з іх таксама былі пазбаўлены сваёй Радзімы, многія таксама нудзіліся, што не маглі быць там, дзе прайшло маленства, дзе засталіся самыя светлыя гады:

**Матка Боская, што ў Чанстахове**
**ў храме**
**Глядзіш спагадліва, што ў Вострай**
**свеціш Браме,**
**Што беражэш Наваградак мой**
**з верным людам!**
**Як ты ў жыццё мяне калісь вярнула**
**цудам...**
**Так нас вярні з выгнання**
**на зямлю Айчыны,**
**Перанясі душу маю адсюль,**
**з чужыны,**
**Да ўзгоркаў тых лясных, ды тых**
**лугоў зялёных,**
**Над сінім Нёманам раскінутых,**
**прамглёных,**
**Да тых палёў, размаляваных**
**пад блакітам**
**Пшаніцай залатой ды**
**серабрыстым жытам,**
**Тых, дзе свірэпка, як бурштын,**
**у грэчцы белай,**
**Дзе рдзее дзятлавінка дзеўчынкай**
**нясмелай,**
**А ўсё абведзена, бы стужкаю,**
**мяжою**
**З ігрушай-дзічкай, што стаіць**
**там сіратою...**

Паэзія А. Міцкевіча прадстаўлена багата: ёсць і ўрыўкі з яго аб'ёмных твораў ("Гражына", "Конрад Валенрод", "Пан Тадэвуш"), шмат вершаў. У раздзеле "Публіцыстыка" — артыкул "Пра рамантычную паэзію", падборка выказванняў, аб'яднаная назвай "Пра Беларусь і беларускую мову", надрукаваны таксама лісты да Я. Чачота, І. Лялевеля, І. Дамейкі, Ж. Санд і іншых. Магчыма, колькасць твораў можна было і скараціць. Тое ж тычыцца і Я. Чачота. І на гэта ёсць важкая прычына. Як ужо адзначалася, аднатомнікам Я. Чачота серыя адкрывалася, а кнігі А. Міцкевіча, Ігната Дамейкі і Антонія Эдварда Адынца ў ёй запланаваны. Праўда, два апошнія, відаць, з улікам згаданай акалічнасці выглядаюць тут больш сціпла. А з другога боку, магчыма, асобныя чытачы абмяжуюцца толькі згаданым зборнікам (што да кнігі Я. Чачота, яны сёння не набудуць, яна адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю, хоць у перспектыве чакаецца яе перавыданне), таму і добра, што могуць больш прачытаць і твораў тых жа А. Міцкевіча, Я. Чачота. Адным словам, у даным выпадку да нейкай пэўнай высновы прыйсці цяжка. Таму трэба задавальняцца тым, што ёсць, а ёсць, паўтараю, унікальны том "Філаматы і філарэты".

Змястоўнай атрымалася падборка Тамаша Зана, "архіпрамяністага", як увайшоў ён у гісторыю, і ці не самага адданага ідэі, якой служыў разам з сябрамі, таму і гатовы быў узяць усю віну на сябе, абы толькі ўратаваць іншых. Яго вершы "Выгнанец", кажучы сённяшнімі словамі, з лагернай літаратуры, якая была заўсёды, бо заўсёды былі турмы, насілле чалавека над чалавекам, жаданне ўладу маючых прымусіць іншых жыць так, як **трэба** уладам:

**Няма ні сястры тут, ні брата.**
**Каханка найлюбая, дзе ты!**
**Ад вас, родных ніў, перакатаў**
**Мяне аддзяляе паўсвету.**

**Бязмоўе. Для вока, для вуха**
**Усё тут нялюба, ў чужыне.**
**З кім словам абмовіцца! Глуха**
**Адзін між чужых — бы ў пустыні.**

Дарэчы, бунтаўшчыкі з Віленскага універсітэта аказаліся ўвогуле людзьмі таленавітымі. У далейшым асобныя з іх многага дасягнулі. Красамоўны прыклад тут А. Міцкевіч і І. Дамейка, які стаў нацыянальным героем Чылі. А вось Юзаф Кавалеўскі стаў заснавальнікам манголазнаўства ў Расіі, Аляксандр Ходзька — вядомым усходазнаўцам, расійскім консулам у Іране... Па-свойму склаліся лёсы Міхала Рукевіча, Францішка Мадзеўскага, Ануфры Петрашкевіча, М. Рукевіча і А. Петрашкевіча — найбольш драматычна. Ды, нягледзячы ні на што, жылі яны па-ранейшаму годна. М. Рукевіч пазней адбываў пакаранне, як дзекабрыст. І ўвогуле, калі глядзець шырэй, яго жыццё варта аповесці цікавай, якая б, у першую чаргу, магла быць адрасавана юным чытачам (подступы да гэтага зрабіў С. Букчын). Філамат і дзекабрыст М. Рукевіч заслугоўвае, каб ім ганарылася нацыя, як ганарыцца яна іншымі, больш яркімі "зоркамі". Між іншым, тыя, хто не паспеў пазнаёміцца са зборнікам "Філаматы і філарэты", наўрад ці ведаюць, што М. Рукевіч напісаў верш "З Пагоняй наш сцяг". Пры тым зрабіў гэта ў 1821 годзе:

**Дык калі паклічуць трубы**
**Нас у сонечны прасцяг,**
**Дружна ўздымем вальналюбы**
**Мы з Пагоняй нашай сцяг!**

Гаворачы пра М. Рукевіча, К. Цвірка называе філаматаў "ідэйнымі пабрацімамі дзекабрыстаў". Пра дзекабрыстаў сёння ведае кожны, а пра філаматаў? Пра філарэтаў? Думаецца, дзякуючы гэтай кнізе, чытач атрымае пра іх такое поўнае ўяўленне, што заспяшаецца ў бібліятэкі, каб знайсці іншыя кнігі, у якіх расказваецца пра гэтых выдатных людзей. Дарэчы, у зборніку прыведзены спіс літаратуры, якая ў гэтым дапаможа.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## «ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ» ЗНОЎ У БЕЛАРУСІ

Вялікія рэкі пачынаюцца з малых і чыстых крыніц. Для магутнага мора беларускай літаратуры такой крыніцай стала дзейнасць тайных студэнцкіх таварыстваў філарэтаў і філаматаў, што стварыліся ў пачатку XIX стагоддзя ў Віленскім універсітэце. Філаматы (аматары ведаў і навукі) і філарэты (аматары мудрасці і дабрачыннасці) патрабавалі нацыянальнай незалежнасці народам і знішчэння прыгоннага права. Аднак у 1823 годзе таварыствы былі раскрыты, а многія іх удзельнікі арыштаваны і рэпрэсіраваны.

Гэта агульнавядомыя звесткі, але што канкрэтна мы ведаем пра тых маладых і ўсё-такі вялікіх людзей, пра асоб, пра пачынальнікаў? Чарговая кніга "Беларускага кнігазбору" прысвечана менавіта ім. І зараз, дзякуючы намаганням укладальніка Кастуся Цвіркі, мы маем магчымасць пазнаёміцца як з невядомымі раней момантамі біяграфій, так і з творамі аматараў ведаў, навукі, мудрасці і дабрачыннасці.

Прэзентацыя новай кнігі адбылася 18 траўня ў Мінскім доме творчасці дзяцей і моладзі (былым Доме піянераў).

"Вяртанне" філарэтаў і філаматаў віталі Адам Мальдзіс, Ніл Гілевіч, навуковец Язэп Янушкевіч, дырэктар БІНІМа Вітаўт Кіпель, які прыехаў на радзіму з далёкай Амерыкі, і многія іншыя сучасныя беларускія аматары ведаў, навукі і мудрасці.

**Крысціна КУРЧАНКОВА.**

АДКРЫЦЦІ ФІЛАТЭЛІІ

# ТАЙНА СЛУЦКІХ МАРАК

У беларускай філатэліі яшчэ шмат "белых плям". Гісторыя многіх паштовых (ці не яўна паштовых) выпускаў яшчэ не высветлена. Архіўныя дакументы аб іх не знойдзены, а ёсць толькі домыслы і меркаванні. Да такіх тайнаў беларускай філатэліі адносіцца так званы слуцкі выпуск, слуцкія маркі Надзвычайнай рады.

Выпуск гэтых марак выклікае шмат пытанняў у філатэлістаў. Перш за ўсё: дзе выробленыя гэтыя маркі? На тэрыторыі Беларусі ці за яе межамі? Чаму выкарыстоўваліся для наддруковак польскія маркі ў аўстрыйскай і нямецкай валюце? Калі наддрукоўкі рабіліся ў Беларусі, то чаму не выкарыстоўваліся запасы расійскіх царскіх марак, а былі завезены польскія маркі? Можна думаць, што наддрукоўкі рабіліся ўжо пасля ўсіх падзей у Польшчы і таму былі выкарыстаны маркі гэтай краіны. Ці ёсць дзе-небудзь у архівах дакументы Надзвычайнай рады Случчыны, і можа менавіта там захоўваюцца тайны выпуску гэтых марак — прозвішча аўтараў ідэі выпуску, малюнка наддрукоўкі, тыражу выпуску, паштовыя тарыфы і г. д. Прайшло больш за 75 гадоў пасля слуцкіх падзей, але гісторыя марак так і не раскрыта. А калі быць дакладным, то гісторыі выпуску яшчэ няма, ёсць толькі адрывачныя звесткі, што не пацверджаны дакументальна. На жаль, гісторыкі, якія вывучаюць і апісваюць у апошнія гады тыя падзеі, факт існавання марак Надзвычайнай рады Случчыны не пацвердзілі ці ўпусцілі (адсутнасць дакументаў). Беларускім філатэлістам (ва ўсякім разе многім з іх) факт існавання гэтых марак быў проста невядомы. Хаця ў філатэлістычным свеце пра гэтыя маркі вядома даўно. У 1921 годзе ў часопісе "Polski Filatelista" быў змешчаны артыкул аб слуцкім выпуску, а ў 1935 годзе аб гэтым выданні паведамлялася ў манаграфіі "Польскія паштовыя знакі". У пасляваенны перыяд у 1966 годзе гэтая манаграфія была выдадзена зноў у дапоўненым і ўдакладненым выглядзе. У IV томе "ППЗ" у раздзеле "Varia" ("Featured") пра слуцкі выпуск паведамлялася тое ж самае, што і ў 1935 годзе.

У польскай прэсе ў тым жа 1921 годзе былі надрукаваны выказванні аднаго з членаў рады Случчыны аб выпуску слуцкіх марак. Сама рада ў той час размяшчалася ў пакоі № 8 варшаўскага атэля "Saski". З яго слоў, гэтыя паштовыя знакі былі падрыхтаваны ў якасці марак аплаты за дастаўку пісем у Слуцку. У паштовым абарачэнні яны ніколі не былі. Хаця сустракаюцца, праўда, вельмі і вельмі рэдка, на канвертах і паштоўках (усяго некалькі штук), якія быццам прайшлі пошту. У якасці прыкладу такога "паштовага сувеніра" паказваю фатаграфію з "ППЗ", на якой адлюстравана, відаць, відавая паштоўка з дзвюма слуцкімі маркамі, пагашанымі польскім паштовым каляндарным штэмпелем "Baranowicze *b* 21.01.21".

Тут адразу ўзнікае пытанне — чаму слуцкія маркі пагашаны штэмпелем горада Баранавічы, калі гэты горад не ўваходзіў у зону слуцкіх падзей? Можна меркаваць, што нейкі філатэліст папрасіў знаёмага паштавіка ў Баранавічах пагасіць гэтыя маркі на паштоўцы альбо ён меў доступ да баранавіцкага паштовага штэмпеля і зрабіў сабе такі "гістарычны сувенір".




У філатэлістычнай літаратуры такія сувеніры вызначаюцца як спекулятыўныя фантастычныя выданні, зробленыя альбо філатэлістамі, альбо дзялкамі ад філатэліі ва ўрон філатэлістам, а можа і гісторыі. Трэба адзначыць, што польскія паштовыя ўлады не маглі дазволіць праходжанне карэспандэнцыі са слуцкімі маркамі па многіх прычынах: па-першае, у той час у дастатку польская пошта мела свае паштовыя знакі, па-другое, польскія дзяржаўныя ўлады не маглі дазволіць на сваёй тэрыторыі хаджэнне марак, што не належалі польскай дзяржаве.

Каб аплаціць перасылку карэспандэнцыі гэтымі маркамі, яны павінны былі прадавацца на польскай пошце, чаго не было і быць не магло. Гісторыя польскай пошты не зафіксавала такога выпадку. Па-трэцяе, гэта не магло быць ажыццёўлена і па палітычных матывах таго складанага часу. Няхай нават выдаўцы гэтых марак і жылі ў варшаўскім атэлі. І яшчэ адзін аргумент: карэспандэнцыі са штэмпелем "Баранавічы" і слуцкай маркай не магло існаваць па той прычыне, што, са слоў прадстаўніка рады, гэтыя маркі прызначаліся для дастаўкі пісем — У СЛУЦКУ — г. зн. то быў нібыта мясцовы, гарадскі выпуск марак для карэспандэнцыі ўнутры горада, а не за яго межамі. Гэта былі маркі не для карэспандэнцыі "са Слуцка" ці "ў Слуцк" ці "у" — "з" іншых месцаў рэгіёна. Гэта былі маркі для Слуцка, а не для Баранавіч і г. д.

Са слоў таго ж прадстаўніка рады, увесь тыраж марак быў распрададзены ў Варшаве членамі рады, а не польскай поштай, а выручаныя грошы пайшлі на аплату ўсякіх патрэб рады.

Як я ўжо пісаў вышэй, сярод беларускіх філатэлістаў мала хто ведаў пра гэтыя маркі, а тым больш бачыў іх у калекцыях. Упершыню ў рэспубліцы аб слуцкіх марках успомніла газета "Беларускі калекцыянер". У невялікім артыкуле "Маркі слуцкага паўстання" за подпісам "А. С." паведамлялася аб існаванні такіх марак, аб тым, што беларускім філатэлістам аб іх стала вядома нядаўна. А далей з напісанага вынікала, што філатэлісты рэспублікі не ведаюць, што ўяўляюць сабой гэтыя маркі — "наддрукоўкі зроблены на марках царскай Расіі, тэкст наддруковак зроблены лацінскім шрыфтам". Як бачым, суцэльныя недакладнасці. Таму ў "Беларускім калекцыянеры" быў апублікаваны мой артыкул "Яшчэ раз пра слуцкія маркі", у якім я абагульніў сабраны за апошнія гады матэрыял аб гэтым выпуску.

У пачатку мая сёлетняга года ў камісійным філатэлістычным магазіне ў горадзе Лодзь (Польшча) мне прапанавалі два вертыкальныя квартблокі — 8 слуцкіх марак. Гэта былі маркі ў варыянце наддрукоўкі — "пагоня". Ведаючы некаторыя факты з гісторыі гэтага выпуску, ведаючы, што гэта можа быць непрыгодны для калекцыі непаштовы выпуск, нягледзячы на цану — я набыў гэтыя маркі для сваёй беларускай калекцыі. І таму было некалькі прычын. Лічу, што любы філатэлістычны матэрыял аб Беларусі павінен быць у калекцыях філатэлістаў рэспублікі, тым больш, што слуцкіх марак у беларускіх калекцыях няма. Лічу, што нават калі гэта і не паштовы выпуск, маркі характарызуюць нейкі перыяд нашай беларускай гісторыі і іх месца ў тэматычнай калекцыі аб рэспубліцы. А слуцкія маркі выглядаюць так. Гэта першая публікацыя.

Што тычыцца выкладзенага вышэй матэрыяла аб слуцкім выпуску і вывадах, то гэта асабістае меркаванне аўтара. За любыя звесткі пра гэты выпуск аўтар будзе ўдзячны чытачам.

**Леў КОЛАСАЎ.**

ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

**Сёлетні фестываль нацыянальных культур, які прайшоў у Гродне, займеў свой гімн. Яго стварыў кампазітар Віктар Войцік на словы паэта Сяргея Панізьніка. І гучаў ён на адкрыцці і закрыцці свята братэрства ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча (мастацкі кіраўнік М. Дрынеўскі).**

# БЕЛАРУСКІ ДОМ

**Муз. В. ВОЙЦІКА** **Сл. С. ПАНІЗЬНІКА**




**Зямля сяброў,**
**краіна згоды,**
**Дзе ты і я здаўна жывём,**
**Дзе нашы братнія народы**
**Узводзяць Беларускі Дом.**

*Прыпеў:*

**Гляджу з прыветнага акна:**
**Наўкруг — зямля сяброў.**
**А Беларусь, як і любоў,**
**На ўсё жыццё — адна!**

**Мы зберагаем радаводы,**
**Мы продкаў**
**саграваем ніць...**
**Дом Беларусі,**
**дом лагоды**
**Усёй сям'ёю нам любіць.**

**Радзімы вечныя святыні**
**Яднаюцца адным агнём.**
**З Крыжом прыўкраснай**
**Ефрасінні**
**І з Божай ласкаю жывём.**

*Прыпеў:*

**Гляджу з прыветнага акна:**
**Наўкруг — зямля сяброў.**
**А Беларусь, як і любоў,**
**На ўсё жыццё — адна!**



Гарадок, раённы цэнтр Віцебскай вобласці. Краязнаўчы музей.
Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

ДА 200-ГОДДЗЯ НАРАДЖЭННЯ ВЯЛІКАГА СЫНА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ АДАМА МІЦКЕВІЧА

# ЗАПРАШАЕ ДОМ КУПАЛЫ

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, Міжнародны фонд Янкі Купалы запрашаюць прыняць удзел у рабоце IV Міжнародных Купалаўскіх чытанняў "Янка Купала і польская літаратура", якія пройдуць падчас правядзення юбілейнай Міжнароднай канферэнцыі "Адам Міцкевіч у нацыянальных культурах" (Мінск, 8—9 верасня 1998 г.).**

**Чакаем заявак да 15 жніўня па форме: Прозвішча, імя, імя па бацьку, месца працы, пасада, вучоная ступень, званне; назва даклада, службовы і хатні адрасы і тэлефоны.**

**Тэзісы дакладаў, паведамленняў просім даслаць да 25 жніўня. Матэрыялы Купалаўскіх чытанняў будуць выдадзены асобным зборнікам.**

**Адрас аргкамітэта Купалаўскіх чытанняў:**
**вул. Янкі Купалы, 4**
**220030, Мінск.**
**Літаратурны музей Янкі Купалы.**
**(тэл.-факс: 227-79-43; 227-78-66).**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 964.
Падпісана да друку 8. 06. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.